«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 9 (217), верасень 2024 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 9 (217) (верасень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

## Змест



**ПАМЯЦЬ:** да 20-годдзя з дня смерці Міколы КУПРЭЕВА – нізка малавядомых вершаў паэта «Зямля і песні» ........ с. 1

**УСПАМІНЫ:** сяброўскія згадкі пра Міколу КУПРЭЕВА Святаслава КАЖАДУБА «Дзве апошнія сустрэчы» і Аляксея БЕЛАГА «Непазбежнасць правінцыйных фантазій» ........ с. 2, 3

**ЭСЭ:** «Кропкі адліку» Яўгена БЯЛАСІНА і «Было даўным-даўно...» Ніны ЯНСАНЭ (ПАНІЗЬНІК) ........ с. 4

**ПАЭЗІЯ:** нізка новых вершаў «Вышываю вясну» Святланы ВАРОНІК і слова пра паэтэсу Дануты БІЧЭЛЬ «Паміж мной і табой – Божанька...» ........ с. 5

**ЧЫТАЛЬНЯ:** «Сусед» – «словы» Адама ГЛОБУСА пра Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА ........ с. 6, 7

**ПАЭЗІЯ:** нізка вершаў Магдалены ЛАЕЎСКАЙ «Чакаць і спадзявацца» ........ с. 8

**ПЕРАКЛАД:** «Чортавы лісты» Збігнева ФРОНЧАКА ў перастварэнні з польскай мовы Паўла ЛЯХНОВІЧА ........ с. 9, 10

**ГІСТОРЫІ:** артыкул Алены ДАРАФЕЕВАЙ «Тувэ ЯНСАН: “Я проста шчаслівая”» ........ с. 12

**ПАМЯЦЬ**

# «Дваццаць гадоў маўчыш...»

Мікола Сямёнавіч КУПРЭЕЎ нарадзіўся 25 траўня 1937 года ў вёсцы Ямнае Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. Пасля вайны сям'я пераехала на Брэстчыну. У 1957 годзе Мікола Купрэеў скончыў Івацэвіцкую сярэднюю школу, а затым факультэт беларускай і рускай мовы і літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута (1962). Працаваў у школах Івацэвіцкага і Ляхавіцкага раёнаў, у рэдакцыі ляхавіцкай раённай газеты. Нейкі час лёс пісьменніка быў цесна звязаны з Ганцаўшчынай, дзе ён працаваў настаўнікам у Чудзінскай і Малькавіцкай сярэдніх школах. У 1994 годзе яго прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Апошнія гады жыцця быў звязаны з Берасцейскім Палессем, думкамі ж заўсёды вяртаўся ў роднае Ямнае — калыску сваёй паэтычнай і вандроўнай душы.

Літаратурную працу Мікола Купрэеў пачаў у 1957 годзе. З канца 80-х яго вершы, паэмы, балады пачалі ўсё часцей з'яўляцца ў перыёдыцы. Першая кніга паэзіі «Непазбежнасць» выйшла ў 1967 годзе. Яна, у асноўным, складаецца з балад і элегій, і таму ў ёй пераважаюць ціхія, самотныя інтанацыі. Але ў такой ціхай споведзі аўтара заўсёды адчуваюцца тыя грымотныя падзеі, якія пакінулі след на зямлі і ў сэрцы паэта.

Мікола Купрэеў вельмі рэдка звяртаўся да гімнаў, а калі пісаў іх, то прысвячаў роднаму полю, лесу... Хараство прыроды, любаванне ёю і адначасова боль за родны край перадае не адзін верш паэта: «Камень», «Лістападная балада», «Жўравы не пралятаюць міма», «Вясна», «Цішыня», «Лясныя сполахі»...

Вершы Міколы Купрэева часта вызначаюцца казачнасцю, выкарыстаннем фальклорных матываў і стыляў. Адсюль і любоў да верлібра, балады, элегіі, прытчы. Яго стыхія — ціхія лясныя вёсачкі, дзе яшчэ жывуць народныя песні і легенды. Характэрнымі рысамі паэзіі Міколы Купрэева з'яўляюцца філасофская глыбіня, спалучэнне метафарычнасці з рэальнасцю, асацыятыўны падтэкст і ў той жа час прастата выказвання.

Другі зборнік вершаў аўтар выдаў амаль праз 30 гадоў («Правінцыйныя фантазіі», 1995). Ён перадае цесную сувязь чалавека з радзімай, з яе гісторыяй. Менавіта такое яднанне выклікае ў лірычнага героя жаданне жыць, дапамагае пераадолець адзіноту. Паэт пастаянна звяртаецца да вобраза дарогі, героі ж яго вершаў — вечныя вандроўнікі. Часам галоўным героем твора з'яўляецца сам аўтар, яго біяграфія. Так, біяграфічнай стала паэма Міколы Купрэева «З сястрой і Уладзімірам Караткевічам на Рагачоўшчыне».

Сустракаюцца ў Міколы Купрэева і творы пра каханне. Гэта заўсёды чыстае і прыгожае пачуццё, якое валодае ўсёператваральнай сілай.

Пісьменнік звяртаўся не толькі да вершаваных форм, пісаў таксама і прозу. У 1995 годзе была надрукавана яго аповесць «Дзіцячыя гульні пасля вайны», у 1996-м — «Імгненне светлае», у 1997-м — «На вуліцы Карла Маркса з Паэтам». Гэта своеасаблівая трылогія напісана на гістарычную тэматыку. Аб'ядноўвае аповесці ўспамін пра трагедыю вайны, цяжкія пасляваенныя гады, роздум аб далейшым жыцці.

Лёс творцы не заўсёды быў міласцівым да яго, але Мікола Купрэеў заставаўся верным абранаму шляху, свайму адметнаму погляду на жыццё. Яго паэзія, як і сам аўтар, свабодная ад догмаў і штампаў, нечаканая і арыгінальная.

Памёр Мікола Купрэеў 19 верасня — 20 гадоў назад...

*Не прыедзеш дадому ніколі,*
*не прыедзеш, не прыляціш,*
*не пабяжыш на світанні ў поле,*
*душу не расчыніш вясенняй волі —*
*пад калінаю дваццаць гадоў маўчыш...*

Так некалі ён сам — нібы пра сябе сённяшняга — напісаў у вершы 1967 года...

Гэтую публікацыю склалі раскіданыя ў 1962—1972 гадах па раённых газетах вершы, якія не былі змешчаны ў паэтычных зборніках Міколы Купрэева і доўгія дзесяцігоддзі заставаліся амаль невядомымі.

## ЗЯМЛЯ І ПЕСНІ

Мікола КУПРЭЕЎ

### Табе

*Ішоў я па беразе Чорнага,*
*каля Алушты.*
*Думаў, спаткаю.*
*Ля сіняй вады,*
*пад скалой у ружах,*
*думаў, спаткаю.*

*Ішоў па Дняпроўскіх горках,*
*сярод акацый.*
*Думаў, спаткаю.*
*На сцяжынцы крутой,*
*у блакітным плацці,*
*думаў, спаткаю.*

*Ішоў я па беразе Волгі вячэрняй,*
*ля Горкага.*
*Думаў, спаткаю.*
*Нібы ў той песні,*
*пад яснымі зоркамі,*
*думаў, спаткаю.*

*Па Рыжскім узмор'і ішоў я,*
*па ранішніх дзюнах.*
*Думаў, спаткаю.*
*Светлавалосай рыбачкай юнай,*
*думаў, спаткаю.*

*Надакучыла ездзіць па свеце,*
*блукаць і шукаць усё недзе —*
*прыеху дамоў на Палессе.*

*Каб сена касіць у лузе,*
*каб жыта расціць у полі,*
*каб сцежкі таптаць Беларусі,*
*каб дыхаць зялёнай воляй, —*
*прыехаў дамоў на Палессе.*

*Давялося тым летам,*
*тым ціхім ранкам*
*спаткаць на пракосах*
*ля вузенькай чыстай рэчкі*
*Начанкі*
*русыя косы.*

*Ты несла ваду мне напіцца.*
*Я стаяў і чакаў.*
*І што можа так раптам*
*сэрца забіцца —*
*я не чакаў.*

*Вочы цёплыя-цёплыя,*
*сінія-сінія*
*несла ты мне.*



Помнік на магіле Міколы КУПРЭЕВА

*Тыя, што я шукаў!*
*І ўсмешку, і губы,*
*і рукі мілыя-мілыя*
*несла ты мне.*
*Тыя, што я шукаў!*

### Зямля і песні

*Кожная бярозка — нібы песня,*
*кожны лісцік на бярозцы —*
*слова песні,*
*і таму бярозкам у лесе цесна,*
*і яны дзяўчынкамі бягуць к дарогам.*

*А кожная дарога — песня,*
*і кожны метр дарогі — слова песні,*
*і таму дарогам на Зямлі ўжо цесна,*
*і стрэламі яны імчацца к зорам.*

*І мне ў хаце раптам — цесна,*
*бо стаў сваю — сваю! —*
*складаць я песню:*
*крок ступлю — і слова песні,*
*цагліну на будоўлі палажу —*
*слова песні,*
*кіну зерне ў полі — слова песні,*
*Ёй скажу «кахаю» — слова песні,*
*дзіця ў калысцы закрычыць —*
*слова песні,*
*жыццё пасею на Зямлі —*
*слова песні.*

*О, каб на Зямлі было цесна*
*толькі ад песняў!*

***

*Калі захварэю цяжка —*
*у бальніцу мяне не вязіце.*
*На пагорку высокім мяне палажыце!*
*Там сонечны промень, як шпрыц,*
*увядзе ў мяне поўную дозу вясны:*
*кубік цяпла,*
*кубік святла,*
*кубік соку бярозы,*
*кубік свежага ветру,*
*кубік водару кветак першых*
*і апошні, самы асноўны —*
*кубік соку зямлі маёй роднай.*
*І я ажыву! Ажыву!*
*Толькі —*
*поўную дозу вясны!*
*Толькі —*
*на тым пагорку:*
*бачыце каля Нёмана дзве сасны?*

### Сцежка

*Спачатку сцежка мяне вяла.*
*Сярод хмызнякоў густых*
*праз балота.*
*Ішлося лёгка,*
*таму што сцежка грунтоўна*
*зроблена —*
*маім дзедам пракладзена,*
*бацькам прытоптана.*
*Сюдой хадзілі яны*
*на працу,*
*на паляванне,*
*на войны,*
*у госці.*
*Ляжаць на сцежцы*
*іх мазалі,*
*іх любоў*
*і нянавісць,*
*пялёсткі пяшчотнасці іх*
*і грудкі злосці.*

*Таму мне ішлося лёгка.*
*Ды раптам сцежка*
*звярнула ўправа.*
*А мне трэба — прама.*
*І я пакланіўся сцежцы бацькоўй.*

*Ідзецца цяжка.*

### Заклцце

*З трыбуны сышлі,*
*на руках мне разбілі ланцуг,*
*на нагах — кайданы*
*і замок знялі з вуснаў.*
*Сказалі:*
*«Ідзі з плугам у поле сваё,*
*з касой — у свой луг.*
*Спявай і крычы*
*што хочаш*
*на мове сваёй беларускай».*

*Зноў на трыбуны ўзышлі.*

*А самі ж*
*рукі мае адвучылі*
*араць і касіць,*
*ногі — шырока і вольна*
*хадзіць гасцінцам,*
*звязалі свабоду па-свойму*
*думаць і жыць*
*і роднае слова казаць,*
*і маліцца-хрысціцца.*

*Прашу:*
*зноў на рукі ланцуг падаць,*
*вусны замкнуць*
*і ногі скаваць кандаламі,*
*зацягнуць на Незалежнасці пляц —*
*пасадзіць там*
*пад тымі нагамі.*
*Стану каменны й халодны,*
*як ён.*
*Будзеце тут святкаваць*
*свае святы —*
*чорны ў яго не кідайце праклён,*
*у выраджэнні сваім*
*я быў сам вінаваты.*

***

*Выйшла з балота*
*ў вянку з журавінаў чырвоных*
*і белых туманаў.*

*Выйшла з лесу*
*ў вянку з багульніку горкага,*
*ядлоўцу калючага.*

*І сама пацягнула сябе за косы*
*зноў у лес і балота —*
*беларуская наша свабода.*

***19 верасня спаўняецца 20 гадоў з дня смерці адметнага творцы Міколы КУПРЭЕВА (1937—2004), пісьменніка-вандроўніка, вершы і проза якога, як і сам трагічна-гарэтны аўтар, свабодныя ад догмаў і штампаў, нечаканыя і арыгінальныя. Як вянок памяці — гэтыя сяброўскія ўспаміны пра Міколу Сямёнавіча...***

# Дзве апошнія сустрэчы з Міколам Купрэевым

Святаслаў КАЖАДУБ

Дзесьці ў ліпені 1995 года, ідучы з дома па вуліцы Дзяржынскага ў Івацэвічах, я нечакана сустрэў Міколу Купрэева. Ён кіраваўся ў бок чыгуначнай станцыі: у адной руцэ кульба, у другой — нейкі скрутак. Павітаўшыся, Мікола спытаў:

— А ведаеш, Слава, што гэта ў мяне?

— Відаць, нейкі часопіс, — выказаў здагадку я.

— Так, так. Часопіс. І вельмі мне дарагі. Тут, Слава, змешчана мая першая аповесць на роднай мове. «Дзіцячыя гульні пасля вайны». Мы з табой перажылі вайну. Я згубіў маці, ты — бацьку і брата. І мы павінны разумець адзін аднаго. Мы ж амаль равеснікі...

Разгарнуўшы часопіс (а гэта была «Крыніца»), ён пачаў чытаць урыўкі з аповесці. Міколу цяжка было стаяць, і мы звярнулі ў падворак Леаніда Русака, што знаходзіўся побач, прыселі на лаўку. Купрэеў, чытаючы ўрыўкі, успамінаў, як працаваў над аповесцю ў Вярховічах.

— Я доўга думаў над сюжэтам, прыкідваў, з чаго лепш пачаць, — казаў Мікола. — Часта сядаў за стол, схіляўся над чыстым аркушам — і так надоўга заставаў у нейкім незразумелым чаканні. Думак было многа, галава кругам ішла, а на паперы — ні радка. Праз колькі дзён, лежачы ў ложку, я доўга не мог заснуць. Ужо мой сусед па палаце дае храпака, а я ляжу, думаю. Ужо і гімн па радыё прагучаў. Ліпеньская ноч кароткая, вось-вось пачне світаць, а я не сплю. Ціха злез з ложка, насунуў на ногі тапці, узяў са стала ручку і паперу, зачыніўся ў ваннай і напісаў першыя радкі: «Калі мужчыны ўзялі ў рукі рыдлёўкі і сталі засыпаць маму зямлёй, я пабег між магілаў, між крыжоў на край кладаўя, у лес...».

— Пэўна, ты не паверыш, Слава, — працягваў ён, — першыя старонкі былі са слязамі. Яны самі капалі на паперу. Было адчуванне, што перанёсся ў сваё маленства і плачу, як тады. Першыя старонкі гэтай аповесці з'явіліся на свет раннем 29 ліпеня мінулага года...

Мікола запаліў, памаўчаў. Відаць, і цяпер гэтыя ўспаміны растрывожылі яго сэрца, бо, гаворачы, ён часцей стаў заікацца, а гэта прыкмета таго, што мінулае зачапіла за жывое і трэба нейкі час, каб узяць сябе ў рукі, супакоіцца. У Купрэева гэта атрымлівалася не адразу.

— Слухай, Мікола, — нарэшце я парушыў маўчанне, — а як пісалася далей?

— Ды як сказаць?.. Па-рознаму. Часам наступала нейкае прасвятленне. І пісалася лёгка, з ахвотай сядзеў за сталом ці на ложку, альбо ў альтанцы ля бальніцы. А бывала і дзень, і другі не выціскаў ні радка. Нейкая пламета на мяне находзіла, ачмуранасць, і я нічога не мог рабіць, апроч як ляжаць і думаць...

Пагаманіўшы ўжо аб справах надзённых, Купрэеў на развітанне сказаў:

— А ведаеш, Слава, колькі ў мяне будзе аповесцей з майго жыцця-быцця? Не ўгадаеш. — І сам адказаў: — Восем ці дзесяць...

А потым нейк скрушна дадаў:

— Толькі б паспець...

— Чаму ж у цябе такі сумны настрой? — запытаў я.

— Сам бачыш, здароўе — пшык... На адным энтузіязме трымаюся. — І зноў паўтарыў: — Толькі б паспець...



Мікола КУПРЭЕЎ

Не зважаючы на свае хворасці і розныя балячкі, Мікола працаваў і працаваў. Відаць, творчая праца стымулявала і доўжыла ягонае жыццё, давала дадатковыя сілы, каб перамагаць боль, а часам і забываць пра яго. Купрэеў стрымаў сваё слова. Тое, што ён тады задумаў і абяцаў, — здзейсніў. Паставіўшы кропку напрыканцы чарговага твора, ён зноў быў апынаўся ў палоне новых задум і новых планаў. Пра гэта я спярша даведаўся з пісьма, якое ён даслаў 12 красавіка 2003 года з Вярховічаў сваёй сястры Валі ў вёску Вялікая Гаць, што ў Івацэвіцкім раёне: «А яшчэ я таму тут, што задумаў новую прозу. А для прозы патрэбны строгі бальнічны рэжым, светлая галава, ні «грамулькі». Гэта паэзію (чым дурнейшую, тым цікавейшую) можна іншым разам рабіць і на захмеленую галаву...»

На жаль, новую прозу ён не паспеў нават распачаць, хоць і рыхтаваўся (пра свае асобныя планы-задумы Мікола расказаў мне пазней). Але пра тое гаворка будзе далей.

...Сярэдзіна верасня 2003 года. Як помню цяпер, была субота. Жонка папрасіла мяне, каб на рынку купіў тое-сёе з харчоў. Я намерыўся там зазірнуць у кіёск «Саюздруку». Падыходзячы да дзвярэй, убачыў, што нейкі мужчына, падняўшы перад сабой газету, нешта ўважліва разглядае. Я міжволі павярнуў галаву і ўбачыў знаёмыя рысы твару.

— Мікола, ты?! — аклікнуў я.

Ён апусціў галаву і заўсміхаўся сваім амаль беззубым ротам.

— А я цікаваў за табой, Слава, як толькі ты ўвайшоў у залу. Думаю, заўважыш мяне ці не? Заўважыў. От і добра. Прысядзь...

Я ўмасціўся ў крэсле. Мікола сядзеў з самага краю. Побач ля сцяны стаялі яго дзве мыліцы. З адной ён ужо дрэнна хадзіў, таму набыў яшчэ другую.

— А я табе з гадзіну назад тэлефанаваў, — працягваў размову Купрэеў. — У суседа-незнаёмца папрасіў мабільнік. Не адмовіў, што мяне здзівіла. Але ніхто не адказваў. Нумар помню яшчэ з часу тваёй працы ў рэдакцыі...

— Ну як, Мікола, жывеш, як змагаешся з хваробамі? — пачаў я з пытанняў.

— От, як бачыш, — і ён кіўнуў на мыліцы. — У Вярховічах цяпер лячуся. Адпрасіўся, каб прыехаць сюды. Цяжка цяпер мне на аўтобусах і цягніках ездзіць, асабліва садзіцца. І ўсё ж, думаю, паеду, мо апошні раз. А помніш, Слава, 95-ты, калі мы сядзелі ў падворку Русака?

— Вядома, помню. І абяцанне тваё не забыў, — нагадаў я.

— Дык вось абяцанне сваё, ну ты ўжо ведаеш, я выканаў. На гара выдаў восем аповесцяў. Так што чытай, не прапусці!

— Стараюся і ўжо больш прачытаў, — адказаў я і запытаў: — А што ж далей?

— Спярша пра галоўнае, чаго я сюды прыехаў, — пачаў Купрэеў і пацікавіўся: — Ты з машынай тут ці не?

— З машынай, — адказаў я.

— Тады скажу: хачу пабываць у Міхнавічах, нешта карціць на бацьку глянуць, на хату, на вёску, дыхнуць там паветрам свайго юнацтва, а пасля можна і назад у Вярховічы...

— У чым справа, Мікола! Няма праблем. Паехалі...

Я дапамог яму падняцца, узяць пад пахі свае мыліцы, і мы патупалі да выхаду. Спусціліся па прыступках да плошчы. Пасля я падагнаў машыну, усадзіў Міколу на сядзенне каля вадзіцеля. Дарога да Міхнавіч заняла літаральна некалькі хвілін. Проста на падворак да былой школы, дзе жылі Купрэевы, я заехаў адразу з шашы, бо ніякай агароджы там не было. Раней, праўда, і вароты, і веснічкі стаялі. Гэта тады, калі ў левай палове знаходзілася школа. Калі яе не стала, тут месцілася друкарня райгазеты. Пасля яе расфарміравання сюды пасяліліся людзей. Але ў правай палове па-ранейшаму жыў са сваёй другой жонкай Сямён Іванавіч, бацька Міколы.

Я адчыніў дзверцы машыны, і Мікола паціху выбраўся з салона, стаў, абапіраючыся на мыліцы. Стоячы ля машыны, я ўбачыў, як на акне, што выходзіла на двор, адхінулася фіранка і хтосьці выглянуў. А неўзабаве на падворку з'явілася Марыя Васільеўна, мачыха Міколы.

— А чаго табе тут трэба? — з ходу атакавала яна Міколу. — Бач ты, падкаціў на машыне...

— А мне нічога не трэба, — толькі і паспеў адказаць Мікола.

Выйшаў з хаты Сямён Іванавіч.

— Ну, здароў, сын-брадзяга, — з нейкай насмешкай вымавіў ён. — Што скажаш?

Але мачыха не дала Міколу адказаць бацьку.

— Хіба яму ёсць што сказаць нам? — пачала яна. — Глянь, Сенечка, што ён з сябе зрабіў? Цень адна, а не чалавек. А быў жа які хлопец! Во што робіць з людзьмі гэтае зелле...

— Бяда, калі няма галавы на плячах, — працягваў гаворку Сямён Іванавіч. — Казаў табе, што не сын мне будзеш, калі не паслухаеш. Не паслухаў, дак ідзі сабе, адкуль прыйшоў. Але ж трэба было б...

— Нічога не трэба. Ідзі, ідзі, — паддакнула мачыха. — Няма тут нічога тваёго. І нікому ты не трэба...

Мікола стаяў, абапіраючыся на мыліцы, і моўчкі слухаў іх. Яны ж змянялі адно аднаго. Каб і хацеў Мікола што сказаць, дык яму не давалі і рота раскрыць.

— Ну, то бывайце, — раптам выціснуў з сябе Мікола, павярнуўся і ступіў да машыны. Я ўзяў мыліцы, адчыніў яму дзверцы і захлопнуў за ім.

Мачыха яшчэ штось гаварыла (праўда, не так гучна, як бывала ў маладосці), і, сядаючы за руль, я яшчэ пачуў: «Ідзі, ідзі!». І махала рукамі, нібы адганяла ад сябе нячыстую сілу. А Сямён Іванавіч стаяў на ранейшым месцы, нават не скрануўшыся, маўчаў. Развярнуўшыся ў двары, я ўбачыў, як Сямён Іванавіч выцірае хусцінкай слёзы. Відаць, нутром адчуў, што апошні раз бачыцца з сынам, і гэтая кароткая сустрэча, і такое бязглуздае расстанне данельга развярэдзілі яго душу. Так мне падалося...

...Калі мы ад'ехалі ад Міхнавіч, Мікола папрасіў спыніць машыну. Якраз справа ля дарогі раслі грушы-дзічкі, і мы схаваліся ў іх засені. Купрэеў прыадчыніў дзверцы, дастаў з кішэні цыгарэты, запаліў. Я бачыў, як ён хвалюецца, як дрыжаць у яго рукі, а вочы запаланілі слёзы.

«Хай супакоіцца, — думаў я. — Чаго лезці ў яго душу? Там і так трывожна. Хай лепш памаўчыць. Памаўчу і я...»

Але маўчанне было нядоўгім. Яго парушыў сам Мікола.

— Паслухай, Слава, — пачаў ён. — Гэта не споведзь і не апраўданне. Гэта паўтарэнне таго, што было. Так, я цяпер зусім хворы чалавек, няўдачнік, валацуга, як казаў бацька. Хто зрабіў мяне такім? Ты, вядома, не задумваўся, хоць, па-мойму, для цябе няма загадак, бо даўно ведаеш і мяне, і маіх бацькоў. На людзях яны добрыя, спагадлівыя, не раўнуючы — анёлы, хоць да раны прыкладвай...

Мікола замоўк, выпускаючы шызыя клубы дыму. Позірк яго быў скіраваны ўдалеч, у мінулае. І нарэшце, загаварыў ён пра сваё дзяцінства.

— На ўсё жыццё запомніў я тую месячную вераснёўскую ноч, калі на возе ў труне ляжала мая маці, а я стаяў побач. Яна ляжала як жывая. З доўгай касой. Прыгожая... мёртвая. Я не мог і не магу забыць яе. Калі бацька адразу ўгаворваў, а пасля змушаў называць мачыху мамай, я альбо плакаў, альбо зашываўся ў куток і маўчаў. Інакш, як мачыха, я яе так і не назваў. Сястра Валя тады была яшчэ малой, таму хутка прывыкла і стала мачыху называць мамай. Я не пярэчыў, хай будзе так. Падрасце, сама зразумее, што да чаго. Так яно і было.

Калі ты чытаў мае «Гульні...», то заўважыў, што бацька і наша мачыха жылі не ў добрым ладзе, сварыліся, біліся, а пасля мірыліся. Ім было не да нас, дзяцей. Круты, наравісты характар у майго бацькі. А Марыя з маладосці не паддавалася яго ўладзе, а пазней і сама над ім уладу займела. Чаму я так гавару? Раскажу табе пра адзін выпадак. Я пра яго мала каму расказваў. Ведаеш, яшчэ сястра Валя і сваякі маёй мамы на Рагачоўшчыне. Дык слухай. Ужо ў дзясятым класе я падумваў аб паступленні ў інстытут. Дый бацька не раз казаў: быць мне настаўнікам, як і ён. Неяк у нядзелю, калі бацька з жонкай падаліся ў горад, я рашыў паглядзець сваё пасведчанне аб нараджэнні. Знайшоў яго сярод бацькавых дакументаў, прачытаў, адклаў убок. У другім стосіку былі Валіны метрыкі. Але падаліся яны нашмат навейшымі за мае. Гэта зацікавіла. Я стаў чытаць. У графе «маці» было напісана — Купрэева Марыя Васільеўна. Мяне аж скаланула. З якой такой прычыны мачыха стала роднай маці маёй сястры?! Падробка, падман! Я не знаходзіў слоў для свайго гневу і абурэння. Каб у той час побач быў бацька, я не ведаю, як бы я сябе паводзіў. Мабыць, сарваўся б і нагрубіў бы. Але бацька з мачыхай з'явіліся толькі пад вечар. Я ўжо астыў, спакойна падышоўшы да бацькі, паказаў Валіны метрыкі і спытаў: «Чаму ж сястрыну маму падмянілі?». Бацька, пэўна, не чакаў ад мяне такога «адкрыцця». У адзін момант яго губы затрэсліся, твар пачырванеў. Ён адразу не знайшоў, што сказаць, а пасля ажно зайшоўся ад крыку: «Какое твое сраное дело влазить в документы?! Какое ты имеешь право?!» І пайшло, і паехала. Пачуўшы гвалт, прыбегла мачыха. Дведаўшыся, чаму яе Сенечка сварыцца на сына, і сама «завялася». Я выскачыў з хаты як апараны і ў тую ноч дамоў не прыйшоў, заначаваў у свайго аднакласніка. Ды мяне ніхто й не шукаў...

Мікола трохі памаўчаў, запаліў чарговую едкую «астру». Расказваючы пра набалелае, вядома, хваляваўся, перажываў. Пазней, калі я рыхтаваў нататкі пра яго жыццё і творчасць, мне патрапіў у рукі сшытак з запісамі Міколавага бацькі. Я зразумеў, як сур'ёзна ўспрынялі на Рагачоўшчыне родныя Галіны, маці Міколы, вестку, што іх сваячка Валя, Галіна дачка, запісана на мачыху.

«Николай у Вали обозвал скверностями Марию и сказал — в Викове ей повыкалывают глаза». Гэты запіс датуецца 5 чэрвеня 1983 года.

Супакоіўшыся, Мікола сказаў:

— Прабач, што адабраў у цябе столькі часу. Але гэта я павінен быў расказаць. Ты добрай душы чалавек і мяне разумееш. Паўтаруся, майго бацьку і мачыху цікавіла найперш уласнае жыццё. А мы, дзеці, раслі як дзічкі. Магчыма, таму і фінал такі... А цяпер, Сяргей, мне на вакзал пара, цягнік мой хутка...



Сустрэча з Міколам КУПРЭЕВЫМ (сядзіць справа) у Пружанскай СШ № 4

Да прыходу электрычкі на Брэст заставалася менш за гадзіну. Мы сядзелі на лаўцы каля вакзала. Перад тым я заскочыў у кіёск, прынёс у пакеце пячэнне, цукеркі, цыгарэты, бутэльку «Дварцовай». А наастатку спытаў у Міколы пра новую прозу, пра якую ён намёкам пісаў сваёй сястры Валі.

— Галава з вясны гэтым занята, — уздыхнуў Мікола. І мне падалося, што яму цяжка гаварыць. Але пытанне было зададзена, і Купрэеў мулка выціснуў з сябе словы: — Задумак многа. Я не ўсё расказаў пра сябе, пра родных, знаёмых, толькі невялікую частку. Чаго варта толькі адна вандроўка з Івацэвічаў да Пінска праз Целяханы, а пасля да Лунінца? Або паездкі да цёткі ў Растоў, на Рагачоўшчыну? Нічога я не расказаў пра жыццё ў Міхнавічах, пра вучобу ў Івацэвічах, пра «житие в изгнании», калі я напісаў пісьмо Хрушчову. А рэштам скажу вось што: мару накрэмзаць яшчэ адну больш рамантычную і лірычную аповесць, чым «Лісты з млына». З чаго пачну — не ведаю. І ці пачну — таксама невядома. Сам бачыш, які я. Зусім нездалюшчы. Хаця, як ні дзіўна, на галаву не скарджуся...

Тым часам падышла электрычка. Я дапамог Міколу забрацца ў тамбур, падаў пакет з правіянтам, ніякавата і спешна сунуў у яго працягнутую для развітання руку «чырвонец»...

— Бывай, Слава. Дзякуй за ўсё, — ён паківаў мне спярша галавой, а пасля памахаў правай рукой...

— Добрай дарогі, дружа!

На вялікі жаль, гэта была мая апошняя сустрэча з Міколам Купрэевым.

# Непазбежнасць правінцыйных фантазій

Аляксей БЕЛЫ

З надыходам халадоў з нейкай асаблівай вастрынёй пачынаеш усведамляць, што зноў не ўсё зрабіў, не ўсё паспеў... Не паспеў з’ездзіць у вёску Лясная, што ў Баранавіцкім раёне, дзе дажываў свае апошнія дні ў доме для састарэлых цудоўны беларускі паэт Мікола Купрэеў. А цяпер яны — мой бацька Ілля, які ўсё жыццё выцягваў жылы на цяжкай вясковай працы, а ўначы слухаў па радыёле «Латвія» Голас Амерыкі, і Мікола Сымонавіч, якога шануюць усе тыя, хто шануе беларускае Слова, — ляжаць на кладах у маёй роднай вёсцы Міхнавічы, што ўжо даўно зраслася з Івацэвічамі. Іх магілы аддзяляе крокаў семдзесят, не болей.

Пра Міколу Купрэева я пачуў упершыню ў канцы пяцідзясятых-пачатку шасцідзясятых ад яго бацькі Сямёна Іванавіча, які быў маім першым настаўнікам. Тады ў Міхнавічах яшчэ існавала пачатковая школа на чатыры класы, у якой займалася крыху больш за дваццаць вучняў. У невялічкім пакойчыку ў два рады сталі парты, на сценах віселі карты і іншыя наглядныя дапаможнікі. Трэці і чацвёрты класы займаліся ў першую змену, другі і першы — таксама разам — у другую. На другой палове дома жыла сям’я настаўніка, Сямён Іванавіч і яго жонка — мачыха Міколы Купрэева, якую мы называлі *цёцька* (маці Міколы ў вайну забілі немцы). Цётка Марыя прыбірала ў пакоі і ў калідоры, а таксама заварвала нам гарбату. Апроч службовай кватэры і класа ў доме была і маленькая баковачка, дзе знаходзілася бібліятэка...

Завочнае знаёмства з Міколам Купрэевым адбылося менавіта ў сценах нашай школкі. Як ганарыўся тады наш настаўнік Сямён Іванавіч, які тады ўвесь час хадзіў у паўвайскавай фуражцы і пераказваў нам баявыя раненні, сваім сынам!

Пасля інстытута Мікола настаўнічаў. Усё ў яго было цудоўна! Сям’я, праца. У шасцідзясятыя ён шмат друкаваўся, менавіта тады пабачыла свет яго першая кніжка вершаў «Непазбежнасць». Купрэеў-старэйшы не проста расказваў нам пра сына. На ўрок малявання ён прыносіў дзіцячыя работы Міколы, якія старанна захоўваў, і мы з задавальненнем перамалёўвалі гэтыя сюжэты. Добра помню адзін з тых малюнкаў, які называўся «Апошні». На альбомным лісце была размешчана постаць марака, які стаяў на палубе з забінтаванай рукой і корцікам у другой. Дэталяў на малюнку было няшмат. Але нечым ён уразіў і запомніўся. І нават цяпер стаіць перад вачыма.

...Помніцца, сустрэліся ў чарговы раз з Купрэевым у Брэсце на нейкай імпрэзе, і я папрасіў яго падпісаць тую, першую, кніжку Міколы, яго «Непазбежнасць», якую мне пашчасціла набыць у кнігарні ў вёсцы Сноў, што на Нясвіжчыне. «Дзе ты яе выпараў?» — спытаў тады Мікола. Потым напісаў на кнізе некалькі шчырых слоў.

Гісторыя гэтага зборніка цікавая тым, што праз некаторы час, калі паэт Купрэеў жыў на Ганцаўшчыне і працаваў у Малькавіцкай школе, я атрымаў ад яго ліст з просьбай прысласць тую самую кніжку з яго аўтографам. «Нікто не верыць тут, што ў мяне выйшаў зборнік вершаў. Вышлі мне яго» — пісаў ён. Шкада было развітвацца з такой рарытэтнай рэччу, але я пераслаў Міколу гэтую кніжку з яго аўтографам для мяне.

На той час ён пагубіў ці пазабываў у цягніках і аўтобусах шмат што са сваіх папер, дакументаў і хацеў хоць нешта са свайго архіва адрадзіць і вярнуць. Быў час, калі кніжка «Непазбежнасць», у якой была змешчана фатаграфія паэта, з’яўлялася для яго нечым накшталт пашпарта ці пасведчання асобы. Ён шмат тады вандраваў па Беларусі. Мілавіды, Ганцавічы, Рагачоў. То ў сяброў у гасцях, то ў калег, то ў доме адпачынку. Дарэчы, менавіта Рагачоўшчына, вёска Ямнае — яго малая радзіма.



Мікола КУПРЭЕЎ у апошнія гады жыцця

Жывучы на Ганцаўшчыне, Мікола выкладаў у Малькавіцкай школе беларускую мову і літаратуру. Хату ён здымаў на беразе ці то рачулкі, ці то канавы, зусім недалёка быў лес. Як успамінае Віктар Гардзей, сустракаліся яны там неаднаразова. Бачыліся на пахаванні Васіля Праскурава, дзе Мікола чытаў свой верш «Лістапад». А аднойчы, калі Віктар спазніўся на цягнік на Мінск, на станцыі ў Ганцавічах, ён сутрэў Купрэева. Паехалі ў Малькавічы. Гэта быў 1987 год, вечар, калі ў школах праходзяць выпускныя балі. Віктар заўважыў, што ў хаце Міколы амаль па ўсіх кутках былі раскладзеныя велізарныя кавалкі сала. На зацікаўлены позірк сябра Купрэеў патлумачыў, што гэта бацькі вучняў, клапоцячыся пра настаўніка, думаючы, што яму няма чаго есці, прыносяць такія падарункі. Пасля афіцыйнай часткі мерапрыемства, віншавання выпускнікоў, мужчынская палова настаўнікаў і гасцей сабралася ў садзе каля дома, дзе жыў Мікола. «Спявалі песні да ранку — расказвае Гардзей. — Назіралі, як узыходзіла чырвонае сонца».

На наступны дзень узнікалі праблемы з апахмелкай — не было дзе ўзяць гарэлкі , а ўсе «запасы, якія меліся ў колбах у школьных кабінетах, былі знішчаны» яшчэ з вечара. Выручыў старшыня сельсавета, які даў адпаведную паперку, і «пітво ў краме адпусцілі». Гасцей прымаць Мікола ўмеў і любіў. Збіралася да яго ў Малькавічы, па словах Віктара Гардзея (яна мяну пра гэта гаварыла), і Яўгенія Янішчыц. Не даехала. Як расказвала адна з каляжанак Купрэева, потым, з’ехаўшы з Малькавічаў, ён пісаў туды лісты — вучням, настаўнікам. Некаторыя з іх захаваліся.

А жыццё працягвалася. Адносіны з бацькам на той час у Міколы сталі проста ніякімі. Пры нашых сустрэчах ён пра блізкіх не згадваў. Ды і Сямён Іванавіч, калі я бываў у роднай вёсцы і забягаў да яго на хвіліну-другую, каб пагаварыць ці пакінуць сваю чарговую кніжку вершаў, старанна абмінаў у размовах тэму сына.

Я расказваў яму пра сустрэчу з Міколам, а ён мне — пра сенакос, пра тое, як гадуюцца яго трусы, пра здароўе... Міколавы шляхі тады не пралягалі праз дом бацькі, які жыў з жонкай ужо ў новай цаглянай будыніне, на другім канцы сяла, у якой месціліся яго кватэра, школа, клуб.

А мы з Міколам бачыліся. Ён часцяком заязджаў на бавоўняны камбінат, дзе я працаваў рэдактарам шматтыражнай газеты, у маім маленькім кабінеціку мы папівалі «чарніла», закусваючы таннай каўбасой і агуркамі. Гэта былі цікавыя часы. Перабудова, забарона на алкаголь, бясконцыя чэргі за «пітвом». Каб набыць патрэбнае, я вымушаны быў звяртацца да афіцэра міліцыі — яны рабілі гэта без чаргі. Чаму мы пілі менавіта «чарніла»? Рэч у тым, што Міколу было цяжка хадзіць, ён кульгаў, а я жыў тады за 15 кіламетраў ад Баранавічаў — і не заўсёды была магчымасць без праблем туды дабрацца і ўзяць яго з сабой. Таму мы выбіралі такія напоі, якія нам падаваліся «лёгкімі».

Мікола расказваў пра свае паездкі, пра тое, як адпачываў у санаторыі, як заязджаў (калі гэта здаралася) у такі блізкі нам Івацэвіцкі раён, аб чым пішацца...

Зрэшты, пра гэта можна прачытаць і ў яго цудоўнай прозе. А аднойчы ён расказваў, дзе лепш за ўсё ў Івацэвічах піць віно, каб не нарвацца на міліцыянта, не «заляцець». Гэтым месцам ён лічыў курылку ў райкаме партыі. «Паставіш на падваконнік саквояж, у якім раскарканая пляшка і шклянка, нальеш, вып’еш, сціснеш «пашчэнкі» саквояжа — стаіш сабе, пакурваеш, — расказваў ён. — Нікто не замінае, не турбуе. Цішыня! Потым — яшчэ разок, яшчэ». Насамрэч, тады ва ўстановах улады і міліцыянтаў не трымалі, людзей было значна менш...

Нават помнік на яго магіле, а дакладней, камень, з якога гэты помнік зроблены, мае сваю гісторыю. Гэта была невялікая частка мемарыяла Брэсцкай крэпасці. Але, калі на ім высякалі літары, была допушчана памылка. У фразе «В этом месте» — «Вэтом» напісалі разам, таму камень звезлі на прадпрыемства, дзе выраблялі надмагільныя пліты. А Мікола Папека з сябрам набылі яго, з вялікай цяжкасцю, ледзь не паламаўшы прычэпчык аўтамабіля, даставілі дамоў, і потым гэты камень стаў асновай для помніка Купрэеву.

...А кніжка тая, «Непазбежнасць», якую Мікола Купрэеў мне некалі падпісаў, знайшлася. Я даведаўся пра гэта, калі рыхтаваў артыкул. Яе захаваў Мікола Антаноўскі. Праўда, яна «прыйшла» да яго ўжо без вокладкі.

І ёсць у ёй той запаветны для мяне аўтограф:

*«Дарагі зямляча Алёша Белы!*
*Дзякуй, што ты расцеш, робіш добрую справу.*
*Верыцца вельмі ў цябе!*
*Мікола Купрэеў.*
*1 красавіка 1986 г., г. Брэст».*

Вершы ў кніжцы такія цудоўныя, такія напеўныя і шчырыя...




Школьнік Аляксей БЕЛЫ (у апошнім радзе трэці справа). 1962 год.
У цэнтры — настаўнік Сямён Іванавіч КУПРЭЕЎ, бацька Міколы

Праз нейкі час, прыехаўшы да маці, я сустрэў у Івацэвічах знаёмага журналіста, які паведаміў, што Купрэеў захварэў, трапіў у дом для састарэлых у Баранавіцкім раёне, вельмі слабы. Думаю, пад’еду, пагутару, вазьму з сабою яго другую кніжку «Правінцыйныя фантазіі», што была ўхвалена камісіяй на Дзяржаўную прэмію, якую ён так і не атрымаў — скончылася перабудова, змяніліся часы і норавы.

Праз пару дзён (было гэта ў верасні 2004-га) я патэлефанаваў маці.

«Памёр твой друг», — сказала яна.

«Хто?»

«Сын Сямёна, Мікола».

Пра тое, што трошкі раней не стала бацькі Міколы, Сямёна Іванавіча, а потым, праз два з нечым месяцы, і яго жонкі, я ўжо ведаў.

Так сталася, што ўсе яны памерлі напрацягу аднаго года і пахаваны на адных, нашых, міхнавіцкіх могілках. Праўда, нехта распарадзіўся (ці наказваў суродзічам): у зямлю бацьку і сына пакалі чамусьці не побач, а воддаль, хаця месца каля магілы Сямёна Іванавіча і яго жонкі хапае да гэтай пары.

...Ён заўсёды жыў па-свойму. Ні да каго не падладжваўся, ні перад кім не ўкленчваў (хіба толькі перад цудоўнай жанчынай). Так, паэта, і трэба Творцу.

*Калі расцвітаюць кветкі —*
*вы іх не тапчыце,*
*калі жаўранак у горле нясе зару —*
*вы лепш памаўчыце,*
*калі вас абдымаюць, цалуюць і шэпчуць —*
*любіце, любіце, любіце!*
*Калі душа перапоўніца шчасцем —*
*вы песняй крычыце!*
*Я хацеў вам сказаць.*
*О, я многа хацеў вам сказаць!*

Дарэчы, гэтыя, апошнія словы, выбіты золатам на камяні, што ўсталяваны на магіле Міколы Купрэева.

А ён ужо ў свеце іншым, і, хочацца спадзявацца, у свеце лепшым. Ён шмат што прадчуваў і прадказваў. У тым ліку, як і многія з паэтаў, сваю смерць. І менавіта ў сваёй «Непазбежнасці», якая пабачыла свет у далёкім 1967 годзе, калі яму было толькі трыццаць гадоў.

*І пайду да светлых я вытокаў,*
*як той вольны, ваяўнічы, мірны смерд,*
*аж пакуль не стрэне на гары высокай*
*мяне другая непазбежнасць — смерць.*

Пэўна, смерць і стрэла яго ля светлых вытокаў, пра якія ён ніколі не забываў, на высокай вяршыні. Няхай не Славы, але Майстэрства і Таленту — дакладна.

# Кропкі адліку



Яўген БЯЛАСІН (1954—2022)

### Вось калі вам будзе 38...

Калі я напрыканцы 1970-х перабраўся ў Брэст, тут база масавага, народнага спорту была бадай што больш шырокай, чым цяпер, праз амаль чатыры дзесяцігоддзі. Хоць не было ні Лядовага палацу, ні новых футбольных пляцовак са штучным пакрыццём, але наяўныя пляцоўкі, як, прыкладам, запаснае поле стадыёна «Будаўнік», былі агульнадаступнымі. У тым ліку і таму, што бясплатнымі. Цяпер, калі адбылося масіўнае расслаенне народа, плата за магчымасць карыстацца нечым па факту працуе як інструмент адсячэння людзей з невысокімі даходамі. У Лядовы ходзяць багатыя ды іхнія дзеці. І на «Будаўнік» шлагбаўм стаў закрыты многім. А бясплатную хакейную каробку на запасным полі стадыёна «Дынама» перасталі ставіць яшчэ задоўна да таго, як сам стадыён перайменавалі ў «Брэсцкі».

Між тым дзея, пра якую распавяду, адбывалася менавіта там. У 1980-я каробку ставілі і залівалі адразу, як пачыналіся маразы. Зімы тады былі не роўня цяперашнім, і доўгія тры месяцы можна было гуляць у хакей на свежым паветры і пры яркім натуральным святле. Проста райская нейкія ўмовы! Імі мы, брэсцкія аматары, карысталіся напоўніцу. У суботу і нядзелю, само сабой, але і яшчэ пару разоў на будні, да заканчэння светлавога дня, сюды сыходзіліся мужчыны і «рубіліся» з вялікім азартам. Былі і слесары, і вайскоўцы, і міліцыянты, і настаўнікі. Будаўнікі былі, лекары. Нават друкар адзін быў, Валера.

Манера Валеравай гульні была меланхалічнай, ды яшчэ і фізуха падводзіла. Ён часта спазняўся ў перахопе, чэла абцірывалі лягчэй, чым хацелася гульцам каманды, у якой яму выпадала гуляць. Магчыма, Валера быў падтручаны паліграфскай фарбай — тады друкарская тэхналогія ўжывала ацынкаваныя пласціны і фарбы з высокім утрыманнем таксінаў. Але нам глыбокія развагі былі чужыя! Прыйшоў — дык іграй. Ці — не прыходзь. Таму ў бок Валеры часта неслася: «Ну што ты паўзеш, як карова!», або нават «Валера, вызначся ўсё ж і скажы, за каго гуляеш!».

І аднаго разу Валера не вытрымаў і даў адказ. Агрызнуўся. «Вось будзе вам трыццаць восем гадоў, як мне, тады паглядзіце, як вы самі будзеце поўзаць, і ці будзеце».

Мы былі ў большасці сваёй, сапраўды, маладзейшыя за яго. Хто на дваццаць гадоў, хто на пяць або шэсць, як я — ужо не помню дакладна год, у які гэта адбывалася. Даўно ўжо перасягнуў я тую пастаўленую дакорам Валерам планку. І чым далей прасоўваюся ва ўзросце, тым больш ува мне весялосці, калі згадваю едкую, як думалася аўтару, рэпліку. Пры гэтым не толькі з уласнага эгаізму цешуся...

Не так даўно закончылі мы збірацца на футбол на паўвялікім полі каля адной са школ, дзе акрамя звыклых савецкіх яшчэ ям і трава мала-мальская ёсць, таму ў буцах прыходзілі наяўрваць фактычна ўсе, — каб не выпадаць у асадак. Дык вось, прыходзіў з намі і сямідзесяціпяцігадовы адстаўнік Сямёнавіч. Сумленна адпрацоўваў ён функцыю ў абароне, але калі-нікалі вывадзілі Сямёнавіча раз ці два на ўдарную пазіцыю і адпасоўвалі пад удар. Ніхто ў паддаўкі не гуляў, тым не менш здаралася, што глыбокі па гадах дзед забіваў рэальны гол, і не «пакацігарошкам», абы мяч перасёк лінію, а «пад бэльку», з шыкам і шумам.

Трыццаць восем дадаць трыццаць восем — гэта семдзесят шэсць. Бадай што не дацягнуў Сямёнавіч да двайной Валеравай нормы. Не памятаю, ці ён перастаў прыходзіць, ці перш тая «пуля» распалася. Асабліва сяброўскіх стасункаў у Сямёнавіча ні з кім не было. Яно і зразумела: зусім розныя пакаленні. Кажуць, дзесь на лецішчы ён жыў, саступіўшы кватэру дзецям. І нібыта выразалі яму апендыцыт. Але і таго, што ёсць, для гэтай кропкі адліку больш чым даволі.

### Неафіцыйны майстар

Гэтая кропка адліку стварылася без майго асабістага ўдзелу, але гэта не перашкодзіла ёй стаць маёй асабістай кропкай.

У часе вучобы ў інстытуце хадзіў на секцыю настольнага тэніса. Нас хлапцоў шэсць з факультэта нямецкай мовы хадзіла. Два разы на тыдзень былі нашымі. Зрэдку выпадаў і трэці — калі ніхто не прыходзіў на заняткі «іспанцаў» у пятніцу.

Даваў нам дзяжурны лабарант сетку, ракеткі, шарыкі, і паўтары гадзіны мы на двух сталах шпокалі сабе ў пінг-понг на высадку. Так гэта нам падабалася, што некаторыя недзе дасталі сабе паўмяккія в'етнамскія ракеткі.

Іншым разам бывала, што ў паўпадвальнае памяшканне, дзе ставілі тэнісныя сталы, прыходзілі хлапец і дзяўчына, кандыдаты ў майстры спорту па настольным тэнісе. Яны былі не ў сініх «трэніках» з пузамі на каленях і стаптаных савецкіх кедах, як мы. Беленькія тэніскі, спартовыя шорты з акамоўкай, яркія прыгожыя красоўкі ўражвалі. Але галоўнае: якія серыі яны выстрэльвалі! Маглі разоў дваццаць з максімальнай сілай «рэзаць» справа налева — яна, лупіць у адказ — ён, потым пераключаліся на другі бок — адно трэскат у тым склепе стаяў. А іншым разам прыходзіў крыху старэйшы за іх майстар спорту. Той не «рэзаў», як ашалелы, а выкручваў-вымучваў шары, з нейкай падступнасцю, з адмысловым кракценнем нават — і тыя шары быццам нячысцік насіў, так подла-коса, з такой ратацыяй адскоквалі яны ад стала пасля апрацоўкі тым майстрам.

Лішнім будзе казаць, што ракеткі ў іх былі о-го-го.

Але аднойчы ў бойкі гэты грукат і кракценне ля крайняга стала, — а «профі» заўсёды займалі дальні крайні стол, каб ніхто не блытаўся пад нагамі, — завітаў нейкі высокі хлапчына. Узяў у лабаранта звычайную жорсткую савецкую ракетку — фанера, з двух бакоў наклееныя тонкія гумовыя пракладкі з пупыркамі, — і па чарзе вынес спачатку кандыдата ў майстры, а потым і кандыдатку. І майстру спорту, як ён ні закручваў і ні падрэзваў той памаранчавы прафесійны шарык, не ўдалося пазбегнуць паразы. Хлопец проста, як сякераю, з глухім непадпружыненым дапаўняльнай мяккай пракладкай стукам уганяў той шарык амаль з любой пазіцыі то ў адзін, то ў другі кут стала, а калі хітрыя прафесіяналы, здавалася, гатовыя былі адбіць яго і справа, і злева, магутна страляў па цэнтры ў падбрушша. Лікі былі, дарэчы, да непрыстойнага разгромныя: прафесіяналы набіралі два, ад сілы пяць ачкоў.

«Зрабіўшы» мясцовых грандаў, хлапчына паклаў сваю працяцкую, пацёртую ракетку на стол, прамовіў: «Галоўнае — правільна біць па шарыку!» — і знік, як растварыўся ў пройме дзвярэй.

Мы даўно ўжо пакінулі свае перастукалкі і гапіліся на гэтую праяву. Пасля фінала самы смелы з нас спытаў у лабаранта, а што гэта за чэмпіён. Няйначай — майстар спорту?

«Ды не, — адказаў той. — Ён і не кандыдат нават. Проста добра гуляе».

# Было даўным-даўно...

Ніна ЯНСАНЭ (ПАНІЗЬНІК)

Даўней уся зямля на бабышаўскіх хутарах была названая. На Пяткевічавы стаўкі хадзілі паласкаць вытканае палатно: вада там была дужа чыстая. Пайсці ў Вераб'і? Знаі куды: перайсці рэчку Волту, абагнуць Стручкі і Прорвы, гаёк Букет — і набраць у пушчы арэхаў. А частка пушчы называлася так — Гарохаўе.

Каля нашай хаты ішла Французкая дарога: ад Слабады, дзе за Дзвіной стаяла Дрыса, ад Дрысенскага лагера 1812 года — на Друю. Ля гэтай Французкай дарогі непадалёку ад сядзібы Косціка Адамовіча расла купа таполяў. Глянеш у кусты — і ўбачыш збуцвелы крыж. Ці не ў 1920-м, падчас руска-польскай вайны, забрыў сюды паранены салдат-расеец. Сканаў ваяка ў канаве. Пахавалі «бальшавіка» па-праваслаўнаму. Таму і хадзіла я ў школу каля Бальшавіка. Пыталіся: «Куды бацька пайшоў абкашваць канаву?» Да Бальшавіка!

Па ўкатанай дарозе можна ехаць з Мёраў праз Даўгінава, Кісл які, Латышы, Пуцінава ў Лявонпаль і далей на Слабаду. Наўпроць Бабышак — поле. Яго акраец называўся Лядамі.

А было даўным-даўно так. Наш сусед Стапан Ліннік купіў надзел, парослы густым лесам. Стаў карчаваць. Гібеў, пакуль не высвецілася чыстае поле, на якім ён і харом свой паставіў. Яшчэ ў 50-я гады на тых Лядах можна было пазнаць абрысы былой заможнай гаспадаркі.

Калі мама саліла агуркі (з ураджайных насёнаў, вымененых калісьці ў немца за сала), дзяцей адсылала ў Петракоў сад — насмаргаць вішнёвага лісця для расолу. Петракоў сад стаяў на прыгожым узгорку над руччом. Гаспадарку ў глыбіні сада я яшчэ заспела пагля-дзець: дом, ток... Там жыў чалавек, якога звалі Петрачком, а яго жонку — Аўдоляй. Пасля іх смерці хата развалілася, а ток разабралі, калі ў нас у 1940-м пачыналіся калгасы. У садзе было многа яблынь, сліў, вішань. У 1943—1944 гадах многія далікатныя дрэвы вымерзлі. Захаваўся вішняк у Петраковым садзе, які паслужыў і нам.

Пад ракой Волтай у Бабышках надзелы зямлі былі нарэзаны палосамі. Дзе жылі Грышка з Рамана (Панізьнікі), была і бацькава паласа. Адна паласа называлася так: Ксяндзоў Луг. Надзел належаў чалавеку з гумарам. Не помню, як яго звалі. Ён на вяселлях, хрэсьбінах выдумляў з сябе ксяндза. З пацешкамі, прыбабунькамі па-свойму браўся «вянчаць» маладых. Абое ладзіў смешныя «ксціны», ад чаго госці нападпітку рагаталі ад прыдуманай ім забавы.

Калі я наведала свае «былыя» Бабышкі, пабачыла: дзе быў наш дом, там зарослы быльнягом стугур. Прытулілася да жульвіцы, якая яшчэ харахорылася на былой мяжы з соткамі бабулькі Альжбеты. Воддаль відаць дом даўняга суседа Васіля Белавуса («Магіром» празывалі). Сцены абадраныя, а вывезці на дровы бярвенні з бабышаўскай «ямы» было немагчыма. На месцы мамінага агародчыка з урадлівым чарназёмам праз іржавыя пласты гліны праступае аер. Даўно ў сцюбурах пустазелля і Французкая дарога. І не скажаш: «Дзе была ніўка, там пожанька стала».

Бацькі жылі пры першых саветах, пры паляках, пры другіх саветах, пры немцах... Такі мелі заходне-беларускі чысленнік (каляндар). Вайной наша бабуля Ганэта хавалася пад Мёрамі ў балоце Мох. Каб прагнаць яе сына-партызана з яго атрадам, карнікі пайшлі праз балота на гумовых лыжах. Бабуля сядзела ў твані і дыхала праз чарацінку, так і ўратавалася.

Мацярык наш цікавы. Родзічы жылі на хутары Латышкі, я хадзіла ў школу ў вёску Латышы. А і пры немцах вучылі нас там па-беларуску. Знала на памяць усю паэму Якуба Коласа «Новая зямля». І цяпер магу ўспомніць урыўкі. Пазней вучылася ў мястэчку Лявонпаль. Ад млына Пяткевіча ў Смульках міналі бор, за якім пачыналася Пажарка. Канец мястэчка спалілі яшчэ шведы. Людзі запомнілі няшчасце. У Лявонпалі любілі хадзіць на Міколкаву гару, дзе калісьці былы гаспадар Лявонпаля трымаў звярынец. Праз былую аранжэрэю графа Лапацінскага траплялі на прыбераг Дзвіны — Заборку, Паплавы. Калісь славутае мястэчка шырылася ад Пажаркі да ручая Каменка пад Грудзінавам. Там і па сёння стаіць славуты помнік — Калона ў гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 года. Праўда, у школе не давалі веды па гісторыі роднага берага. Але пазней дазналася, што калісьці на месцы Лявонпаля стаялі Ліlькі. 450 гадоў назад была пазначана ў нейкіх дакументах новая назва — Чурылавічы. 215 гадоў таму ўзнікла найменне Лявонпаль (хто называў яго Леванполем, хто — Люмполем...).



На ганку роднай сядзібы ў Лявонпалі Мёрскага раёна. Справа ў другім шэрагу стаіць Ніна ПАНІЗЬНІК, пасярод (з сабачкам) — будучы паэт Сяргей ПАНІЗЬНІК. 1950 г.

І мой род мае даўнюю гісторыю. Бацька — Сцяпан Панізьнік, мама ў дзявоцтве — Нюра Сялюн, а яе мама Ганэта ў дзявоцтве — Падабыцька.

Бабышкі засталіся ў памяці велічальнымі велікоднымі песнямі, «Аляюем», калядкамі... А таксама жывымі прыбабунькамі, павучаннямі, вясёлашчамі («Хто мяняіць, па тым хамут гуляіць», «З галавой не дагаварыўся, то й да ног ня сунься», «Якое дрэва, такі й клін; які бацька, такі й сын»...).

Помніцца гучальнае наваколле з вёскамі Брыжалюбкі, Брэдзева, Буралом, Дарожкі, Званкі, Карандышы, Кульвока, Мальцы, Панізьнікі, Пятрэлева, Сташулі, Таракі... І ўсе словы былі ў мяккім маўленні, з неперакручанымі азначэннямі.

У Міхасінках калісьці мужыкі скінулі ў рэчку Волту 15 забіякаў-пранцузаў. Сястрыцай Волты лічу і Влтаву ў Чэхіі, і раку Олт у Румыніі... Мае продкі збіраліся да Волты з рознага свету, а потым адтуль — ужо нас — параскідаў лёс па розных прагалах. З 1951 года я жыву ў Латвіі. Калі ў 1998-м мне надавалі латвійскае грамадзянства і трэба было прамаўляць прысягу дзяржаве, я з гэтай нагоды папрасіла прабачэння ў Беларусі, дзе была дачкой сваёй Бацькаўшчыны, свайго радаводнага мацерыка. То й сягоння застаюся яго крэўнай.

# Паміж мной і табой — Божанька…

Данута БІЧЭЛЬ

Брэст. Белаазёрск. Камянец. Белая Вежа… Косава…

Спачатку ў маім жыцці быў Уладзімір Андрэевіч Калеснік, ён называў мае звычайныя кніжачкі вершаў *«Малітоўнічкамі»*, *«Кантычкамі»*. Я была такой спакойнай у той час, што не пацікавілася, ці толькі мае зборнічкі ён так называе, ці, можа, усе, што малыя памерам… Усё, што ён мне сказаў, само сабой засела ў памяці і не згубілася…

Амаль адначасна ў маё жыццё ўкацілася на калясцы Ніна Мацяш. Яна называла мяне *сястрыцай*. Яе гаючае слоўца гарнуся было лекавым і дапамагала пераносіць самыя цяжкія выпрабаванні, гарнулася я да яе.

Марыя Новік паўстала за каляскай Ніны як анёл-ахоўнік.

А Святлана Варонік… Нават цяжка прыгадаць, калі гэты прамень засвяціў разам з сонейкам, з Калеснікам, з Нінай, Марыяй ды Галінай Скарынай, якая найчасцей дапамагала Ніне, бо жыла недалёка ад яе ў Белаазёрску.

Святлана кажа, што мае вершы даюць ёй натхненне. Я ведаю па сабе: ёсць добрыя паэты, якіх чытаеш — і нічога ў душы не здрыганецца, не адгукнецца, а ёсць такія, ад якіх мурашкі па скуры і сэрца заходзіцца… Чытанне вершаў — гэта індывідуальны, нават інтымны працэс… Святлана выбрала мяне як слухачку, каб перадаць глыток ветру і каб вецер вярнуўся віртуальна, — мы размаўляем па мабільніках, а бачымся рэдка… На мой дзень нараджэння яна прыслала свой першы томік вершаў «Маміна дрэва». Я пачала чытаць, і адразу мне стала добра, бо:

*Цвіце мая доля.*
*У садзе — бела.*
*Успамінае мяне маленькаю*
*Маміна дрэва.*

Маміна дрэва ў яе вершы прарастае галінамі, карэннем, лісцейкам, пасынкамі, парасткамі ў садзе, які цвіце вобразамі-слязінамі, пачуццямі:

*Удзячная Богу…*
*Глядзіш на мяне…*
*Мама… Бацька… Гена…*
*Цётачка… Мне…*
*Вас так не стае…*
*Пачынаюць сады цвісці…*
*Як без вас мне туды ўвайсці…*

Спачатку «Маміна дрэва» было ў два разы таўсцейшае, паціху яго «абстругалі», скарацілі ў выдавецтве, знялі маё ўступнае слова. Аўтарка вельмі перажывала, але я пераканала яе, што трэба прыняць гэтае рашэнне выдавецтва. Я ўспомніла, як мяне аднойчы Іван Антонавіч Брыль супакоіў: «Не перажывай, там яшчэ шмат добрых вершаў засталося!».

У кніжачцы на 96-ці старонках змешчана 236 кароткіх вершаў, вершасказаў. Можа падацца, што вершы просценькія, бо кароткія, як *«глыток ветру»*, калі пагартаць павярхоўна. Але:

*Сны завяршаюць яўнае.*
*Крочу ў глыбінях свету.*
*Дарэмна са мною букецік*
*кветак пасохлых…*

Я пераставіла б словы апошняга радка дзеля рыфмы, але Святлане гэта не трэба. Гэты верш аб жыцці ці паміранні? Аб несмяротнасці, аб чалавечай бясконцасці ў агульнай людской повязі. Аб бессэнсоўнасці рытуальных дробязяў з сухімі кветкамі…

Празрыстых версэтаў з адной метафарай у кнізе шмат. Напрыклад:

*Вялікі валун прысеў на ўзлеску*
*адпачыць, ды так і не здолеў,*
*зачараваны бярозкай,*
*што прыпынілася побач,*
*пайсці далей…*

Святлана глыбока ныруе ў слоўнай плыні, і цяжка разабрацца, чытаючы, ці правільна ты яе ўспрымаеш. Яе зварот да *цябе* — вельмі канкрэтны і неакрэслены, і трэба думаць асцярожна, бо мы прывыклі, што *ты* — гэта *ён*, а ў Святланы *ён* (*хлопец, мужчына*) не той, хто засланяе ўвесь прыгожы свет, у якім ёсць Бог. Ты — гэта і душа Мамы Броні, заўсёды жывая на небе, і блізкія людзі — сястра, сябра і сяброўка, чытачы і сад, і кожнае дрэва, кожны лісток. Яна адушаўляе прыроду, нібы святы Францішак з Асізі, ды неяк гэта ўяўляе па-свойму, можа, па-язычніцку. У паэзіі Святланы Варонік усё мае душу — і хмарка, і кропля, і трава:

*Вялікая чорная хмара паўзе ў мой бок…*
*Я шкадую яе і дапамагаю выплакацца.*

І я, чытачка, ведаю, што яна і да мяне гэтак звяртаецца:

*Не сціхай, мой дождж агністы…*
*Дажджынкай кожнай люблю Цябе…*

Спакойна разумею, што я жывая, але пампу, як Мама Броня:

*і няхай паміж пальцаў-штыкецін*
*трава прарастае.*

І страшнае імгненне робіцца не страшным, людскім:

*Гліняны свет*
*Абпалены на сонцы.*
*Ідуць дажджы.*
*Расце ў збанках трава.*

Ёсць паэты, якія надта пакутуюць, складаючы вершы, прыдумваюць нечаканыя метафары, каб чытач памучыўся, чытаючы, каб усе ахнулі, каб інакш, як ва ўсіх, мудра і мудрагеліста выходзіла. А ў Святланы проста:

*У хаце мама чужая сваё чужанё абнімае.*

Святлана складала вершы, калі была Мама Броня жывой, але калі Мама памерла, ранняе сіроцтва Святланы надало яе вершаскладанню адценні смутку і безвыходнасці. Нічым не замяніць маміну адсутнасць. Але можна запоўніць пустую прастору невідочнымі словамі, нібы маўклівымі анёламі. Святлана Варонік ператварыла вершаскладанне ў светлую радасць, яна натуе вершы, калі яны прыходзяць, яна імі смяецца, плача і другім аддае, як фанцікі, як цацкі, як ягадкі і цукеркі, як усмешку прывітання. У Святланы ўсе вершы — экспромты.

*Перажываюць стагоддзі,*
*што мы замкаў жывых не бачылі.*
*А я веру ў разбіты глечык.*

Святланіны вершы прывесці ў лагічны парадак цяжка, як немагчыма пераправарыць у агарод рамонкавы, незабудкавы луг, гэтыя вершы — пратэст супраць закасцянелай бюракратычнай формы, якая пранікла нават у паэзію.

У Святланіных вершах блытаюцца стылі, яна прыдумляе літаратурныя прымітывізмы-сацрэалізмы. Святланіны вершы — крыху знакі. Святлана ўмее адчуваць знакі. Яна тэлефануе і кажа:

— Як мы начавалі ў Ніны, мы спалі на адным ложку і надта перад сном смяяліся.

Я не магу ўявіць, як можна ўлегчыся на Нінін ложак утраіх, калі хворая Ніна спіць толькі на спінцы і не варочаецца…

На Каляды Святлана кажа:

— Прыехалі да Ніны, у яе на магілачцы зацвілі браткі. І ў кніжачцы Святланы чытаем версэт:

*І смяяўся ён з нашых слёз,*
*І не ведаў, чаму кветкі*
*Так называюцца — браткі.*

Паехала Святлана па пуцёўцы Саюза беларускіх пісьменнікаў на Готланд, у горад Вісбю, недалёка ад цёплага Гальфстрыма. Заляцела туды, у першыя дні пачала сумаваць па сябрах. Яна прысылала мне SMS без слоў. Я не ведала, што за мае словы будзе плаціць сама Святлана, якая цяпер за мяжой, таму спытала: «Света, дзе ты?». Яна адказала вершам:

*На Готландзе, пані Данута…*
*Льняное мора, цяпло сінечы,*
*Вада кужэльная атуляе плечы…*
*У цяплыню чужога краю*
*Свой беларускі боль хаваю…*
*14 ліпеня*

Я ёй напісала: *«Света, не верыцца нават, што гэта прыслала ты мне, нібы з таго свету»*.

Святлана мне:

*Святліста-прасвятлісты дзень*
*Мой сум падсветлены прадзе.*
*Мой чарапічны гмах плыве*
*За неспазнаную тугою.*
*Так добра ў доміку мне быць —*
*У тым, страха што з чарапіц…*

Так мы перапісваліся… Нарэшце я ёй напісала крыху правакацыйна:

*Светка, ты цяпер шведка,*
*Прыгожых вобразаў сведка!*

Святлана прыслала вершык на развітанне з морам і вярнулася ў Брэст:

*Па-змоўніцку яхты плывуць у мора.*
*Мне ветразяў іх не злічыць.*
*Промнем прасветлым, промнем чырвоным*
*Сонца цалуе іх. 23.07.*

Там, каля мора, Святлана падлячыла звярэджаныя рукі. Вярнуўшыся, яна паўгадзіны іграла мне на акардэоне новыя мелодыі, яны вырываліся з яе паэтычнай душы разам з вершамі.

*У пакінутым доме — на страсе —*
*Растуць дрэвы.*
*Нада мной — карані. Барані…*
*Безнадзейная крона…*
*Барані ўсіх-мяне, Мама Броня.*

## Вышываю вясну



Святлана ВАРОНІК

***

*У дажджу майго*
*ёсць імя…*
*Мама…*

***

*У белым покрыве сяла…*
*Любоў мая*
*табой цвіла…*

***

*Адхварэлі*
*заўчасна*
*журбою…*
*Адхварэлі*
*заўчасна*
*тугою…*
*Не табою*
*цяпер*
*сумую…*
*Вышываю*
*на вуснах*
*вясну я.*

***

*Адкрыццёваю*
*сталася фортка…*
*Прытуліла*
*ў сябе птушаня…*
*І — частуюцца вершам…*

***

*У гэтым*
*паболеным свеце*
*нехта крывавіць*
*сваю душу…*
*Снег знаходзіць*
*свой колер…*

***

*Журба заўчасна зажурылася…*
*Душа твая*
*з маёй*
*змірылася…*

***

*Божа паслаў мне*
*столькі добрых людзей…*
*І забраў…*
*колькі…*
*Божа…*
*Светлыня пераможа…*
*Да зламаных тулюся надзей…*
*Абнадзей*
*іх*
*маёю*
*Вернасцю…*

***

*Мне*
*захацелася*
*маўчаць…*
*Каб ты не чула…*
*Маўчаць-маўчаць-маўчаць…*
*А ты —*
*пачула…*

***

*Усмуткаваліся…*
*А з нябёс*
*Словы Вашыя*
*мне заўсміхаліся…*
*З нябёс*
*Вы адгукаліся…*

***

*У цябе мне*
*надзвычай добра…*
*Музыка дрэў…*
*Графіка радасці…*
*Гаршчок,*
*што паспеў*
*трэснуць…*
*Трымае мае карані…*
*Расці…*
*Усміхнулася сонца…*

***

*На тонкія галіны*
*дрэваў небных*
*злятаюцца сінічкі*
*гаманіць…*
*Звініць мне іх*
*гаворка…*
*…Стала горка…*
*Сінічкаю стамілася пабыць?*

***

*Мамінай душой,*
*маміным голасам,*
*Словам…*
*Маміным маўчаннем…*
*З кожным з нас так*
*размаўляе Божанька…*

# Сусед

## Словы пра класіка беларускай літаратуры Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА



Адам ГЛОБУС

### 1973. Захопленасць

Караткевіча варта лічыць азартным. Ён захапляўся рознымі рэчамі, і ў нейкія моманты захапленне цалкам яго паглынала. Найперш Уладзіміра Караткевіча паглынала творчасць. Ён мог пісаць раман па васямнаццаць гадзін у суткі. Пісаў і спаў, усё астатняе для Караткевіча знікала. Для яго не існавала раніцы і вечара, дня і ночы, існаваў адно яго твор, які пісаўся з невераемнай хуткасцю. Усялякія перашкоды адкідаліся, адмяталіся і знішчаліся. Апантанасць? Так. Уладзімір Караткевіч быў апантаны стварэннем літаратуры. У гэта лёгка паверыць, калі ведаеш пра пабытовыя дробязі ў яго паводзінах. Ну хоць бы збіранне часопісаў з дэтэктывамі. Рэдактары часопісаў, каб добра прадаваць свой папяровы тавар, расцягвалі публікацыю захапляльнага рамана на два, а то і тры нумары. Гэтак дэтэктывы Жоржа Сіменона друкаваліся ў «Нёмане», у «Неве» і ў «Вокруг света». Уладзімір Караткевіч ніколі не пачынаў чытаць дэтэктыў, не сабраўшы ўсяго патрэбнага камплекта нумароў. Перакананы, што яму было б цяжка глядзець шматсерыйныя і шматсезонныя серыялы, бо ён глядзеў бы іх, як і пісаў свае раманы, па васямнаццаць гадзін у суткі.

### 1973. Шчырасць

«А цяпер вось, запісваючы пазаўчарашняе, успомніў, як Караткевіч з грубаватай шчырасцю казаў мне нядаўна, што я свой раман дапрацоўкай пасля часопіса зрабіў горшым. Пакуль што не бачу гэтага», — чытаем у запісах Янкі Брыля, зробленых у 1973-м. Пэўна, Іван Антонавіч Брыль не пабачыў «гэтага» і пазней, бо старанна правіў і перакампаноўваў шмат уласных тэкстаў, сяды-тады дапрацоўкі і сапраўды не ішлі на карысць напісанага. Брылю варта было прыняць заўвагу Караткевіча і не падкрэсліваць ягонай «грубасці». У такіх выпадках дастаткова сказаць «з прастадушнай шчырасцю»; пагатоў, менавіта прастадушнасці ў паводзінах Уладзіміра Караткевіча было і сапраўды многа, і нават замнога.

### 1979. Чорт

Уладзімір Караткевіч любіў розных чарцей і збіраў іх, цацачных, выразаных з дрэва і вылепленых з шамоту. Сярод казак, напісаных Караткевічам, ці не найлепшая — «Чортаў скарб». Часам, каб надаць размове экспрэсіі, Уладзімір Караткевіч казаў: «Чорт цябе пабірай!». Ён ніколі не прамаўляў звычайнага «Чорт цябе задзяры!» ці «Чорт цябе забяры!», у Караткевіча гучала запамінальнае «пабірай». Ад іншых я не чуў гэтага «пабірай», а таму аднойчы перапытаў у дзядзькі Валодзі: «Чаму "пабірай", а не "задзяры" ці "забяры"?» Караткевіч запэўніў мяне, што «Чорт цябе пабірай!» — гэта менавіта па-беларуску. Дарэчы, свой дэтэктыўны раман «Чорны замак Альшанскі» Караткевіч пачынае так: «З чаго мне, чорт пабірай, пачаць? З таго прадвесня, калі за акном было сутонне і мокры снег?..» Усё гэта сапраўды па-беларуску, асабліва пра сутонне і мокры снег.

### 1979. Хаты

Пры жыцці Караткевічу не дадалі павагі, славы і вядомасці, якіх ён, безумоўна, заслугоўваў. Бывае, задумаюся над пытаннямі: чаму так здарылася? Якую памылку зрабіў Уладзімір Караткевіч, што папярэднікі ды раўналеткі залічылі яго ў шэрагі дзіцячых пісьменнікаў і не падпускалі да вялікіх прэмій, узнагарод і званняў? І згадаю папрок, які зрабіў яму рэдактар з часопіса «Маладосць». Ён сказаў, што параўнанне Уладзіміра Сямёнавіча «хаты, як кучы гною» абразлівае. Быў час, калі Беларуссю кіравалі людзі з вёсак, людзі з хат. Тады назвы кніжак Міхася Стральцова «Сена на асфальце» і Янкі Сіпакова «Усе мы з хат» прымаліся за выдатны ўзор. Раптам ад Караткевіча былыя хутаранцы, вяскоўцы і мястэчкоўцы атрымалі замест сваёй роднай і любімай хаты кучу гною. Такое не даруюць, помняць усё жыццё, за такую абразу помсцяць. Зразумела, кожны сапраўдны пісьменнік сутыкаецца з помстаю. Таленту не даруюць тое, што ён талент. Таму знаходзіцца нагода для помсты. Самае цікавае ў гэтай гісторыі тое, што рэдактар выкрасліў гэтае параўнанне з твора Караткевіча, але плётка пра яго засталася, каб помсціць, каб не дадаваць, не дапускаць і не шанаваць.

### 1980. «Ногі...»

Некаторыя з нас моцна стамляюцца за жыццё. Вядома, стамляюцца ўсе, але той, хто працаваў за трох, стамляецца значна болей. Караткевіч заўсёды працаваў шмат. Таму ў свае пяцьдзясят выглядаў на ўсе шэсцьдзясят. Раніцай ён мог пазваніць у дзверы нашай кватэры і папрасіць маю маці зварыць вялікі кубак чорнай кавы. Маці варыла яе ў турцы на маленечкім агні. Караткевіч закурваў папяросу, дымеў і скардзіўся на стомленасць. Выпіўшы каву і падзякаваўшы, ён казаў: «Ногі мае ногі, нясіце маю сраку!» Маці смяялася, смяяўся Караткевіч. Смех яго нават маладзіў.

### 1980. Старажытны свет

Караткевіч любіў парадак. Навядзенне парадку выяўляла лішнія рэчы, лішнія часопісы і лішнія кнігі. На лішніх кнігах Караткевіч рабіў надпісы і раздорваў сябрам і знаёмым. Гэтак да мяне патрапілі некалькі альбомаў па мастацтве. На адным з іх быў надпіс: «УА і УК і мастацтва краін Магрыба глядзіш і зачаруюць свет. Уладзімір. 31 лістапада 80 г.». УА — Уладзімір Адамчык, УК — Уладзімір Караткевіч. Мастацтва Магрыба згадвалася, бо альбом быў якраз яму і прысвечаны. Наследуючы традыцыі, запачаткаванай Караткевічам, я таксама люблю навадзіць парадак у сваім кнігазборы. Нешта нейкае з кніжак я дару людзям, з якімі таварышую. «Искусство стран Магриба. Древний мир» я падараваў Уладзіміру Арлову, які захапляецца старажытнасцю і страшэнна любіць творчасць Караткевіча, з якім так і не паспеў пазнаёміцца. Дорачы альбом, я прапанаваў Арлову легенду, згодна з якой ён стане казаць, што «УА» на тытульнай старонцы — не «Уладзімір Адамчык», а «Уладзімір Арлоў». Доўгі час Арлоў захоўваў падарунак у сябе, а потым перадаў яго ў фонд Музейнага комплексу гісторыі і культуры Аршаншчыны. (Ці карыстаўся Арлоў легендай? Не ведаю...) У фондзе аўтограф Караткевіча перафатаграфавалі і перадалі ў выдавецтва «Мастацкая літаратура», якое надрукавала яго ў 18-м томе збору твораў Уладзіміра Караткевіча пад нумарам 1.8. Ніякіх каментароў да аўтографа няма, але ёсць подпіс «Мал. 1.8. Экслібрыс У. Караткевіча. 1980 г.» Экслібрысам у подпісу назвалі бібліятэчную пячатку, якую я паставіў побач з аўтографам. Дарэчы, пячатку тую выразаў і падараваў мне брат Міраслаў. Унізе пячаткі можна, калі папрыглядацца ўважліва, пабачыць літару «А». Спадзяюся, што ў адным з наступных тамоў збору з'явіцца невялічкі каментар пра памылкі, якія зроблены на 11-й старонцы ў 18-м томе. Зрэшты, што мне тыя памылкі...



Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

### 1981. Сеткі з бульбай

Толькі адзін беларускі пісьменнік моцна любіў цалаваць і ўвесь час цалаваў жаночыя ручкі. Ён прыкладаўся вуснамі да жаночых ручак і жаночых пальчыкаў заўсёды, калі толькі мог. Я не люблю цалаваць жаночыя рукі і не люблю дарыць жанчынам букеты і вянкі, а таму мне было няёмка стаяць побач, калі Уладзімір Караткевіч нахіляецца да жаночай рукі. Ён нахіляецца, а ты стаіш і перапаўняешся няёмкасцю. Я стаяў і не нахіляўся, і не цалаваў, бо не бачыў у такіх пацалунках нічога пяшчотнага, вытанчанага і арыстакратычнага. Пустая гульня, нават крыху пашлаватая. Такая пашлаватасць пацалункаў жаночых ручак і абмяркоўвалася аднойчы з рэстаўратарам Уладзімірам Ракіцкім. Ён і згадаў, як Уладзімір Караткевіч, ідучы з крамы, сустрэў нейкую жанчыну паважанага веку. У руках Караткевіча была сетка з бульбаю. Караткевіч нахіліўся да жаночай рукі і пацалаваў яе, у жаночай руцэ была таксама сетка з бульбаю. Выглядала так, што дзядзька Валодзя цалуе не толькі рукі, але і сеткі з бульбаю. Які тут арыстакратызм? Якая вытанчанасць? Якая рамантыка? Звычайная беларушчына.

### 1982. Стадыён

На самым пачатку 80-х футбольная каманда «Дынама-Мінск» добра гуляла. Нават выйграла чэмпіянат СССР. Калі каманда перамагае, яна збірае поўны стадыён, і ён гудзе. Хваляванне і гул мінскага стадыёна «Дынама» ўражвалі па-сапраўднаму. Якраз у той час я жыў побач са стадыёнам, на вуліцы Карла Маркса, і, стоячы на гаўбцы, мог курыць ды слухаць гудзенне, крыкі і авацыі футбольных заўзятараў. На суседнім гаўбцы курыў папяросу Уладзімір Караткевіч, якому я перадаў свой першы зборнік вершаў. Ён называўся не зусім паэтычна — «10х10», але яму пашанцавала, бо першым чытачом і крытыкам у яго стаў Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч. Прачытаўшы мае паэтычныя эцюды, Уладзімір Сямёнавіч вярнуў зборнік з водгукам і жартоўным вершам пра стадыён, які мы разам слухалі, курачы на гаўбцах папяросы:

Геніяльнае наследванне А. Глобусу

Начны — у пражэктарах — стадыён  
Рыкаў  
І неба бароў кулакамі  
Кучаравых і лысых галоў.

Ул. Караткевіч

26 сакавіка 82 г. 20 г. 48 хвілін 39 секунд.

Добра, што ў гісторыі беларускага футбола ёсць яшчэ і верш Караткевіча, прысвечаны паэту з псеўданімам круглым, як мяч.

### 1983. «Страшная казка»

Доўгі час беларускую літаратуру стваралі выхадцы з вёсак. Вясковасць і беларускасць сталі ледзь не сінонімамі, таму патомны гараджанін Уладзімір Караткевіч у літаратурным асяродку адчуваў пэўную няўтульнасць са сваёй шляхетнасцю і сталічнасцю. На мой розум, творца і мусіць адчуваць няўтульнасць у прафесійным асяродку. Калі ты не такі, як большасць, тады і маеш шанец дадаць у асяродак нешта новае, адметнае, непаўторнае. Дзякуючы Караткевічу ў нашым кніжным свеце пачаў з'яўляцца сталічны бляск. Пра сталічнасць і правінцыйнасць я шмат разоў размаўляў з Уладзімірам Сямёнавічам. Ён, як і я, любіў і цаніў гарадскі дзіцячы фальклор з Чорнай рукой і Белай прасцінай, Труной на колцах і Чырвонай плямінай... Пасля тых размоў пра сталічнасць і ўрбанізм у літаратурнай спадчыне Уладзіміра Караткевіча з'явілася ахвяраваная мне казка:

ЧОРНАЯ ЧАСІНА  
(Страшная казка)

Чорная мара  
Чорнай гадзінай  
У чорнай імшары  
Мы заблудзілі.  
Што чорныя стрэхі,  
Чорныя дахі? —  
Тут чорныя духі,  
Чорныя страхі,  
У хатцы чорнай,  
У чорным пакоі  
На чорным стале  
Штось чарнее такое  
У чорнай труне  
(Найчарнейшы канец!)  
Там чорны-найчорны ляжыць...  
.....................  
Селядзец!!!

P. S.

Да Чорнага селядца я дадам яшчэ пару слоў пра няўтульнасць... Доўгі час большасць нашай літаратуры стваралася філолагамі і журналістамі, і мне, мастаку, было крыху няўтульна ў асяродку, дзе «хлёпцы» з дзяўчатамі спрачаюцца пра напісанне слова і месца працяжніка ў сказе.

### 1984. Рамантызм

Паэт Уладзімір Караткевіч захапляўся рамантызмам. Ён любіў дзевятнаццатае наскрозь рамантычнае стагоддзе, пісаў пра герояў паўстання, якое загарэлася ў 1863-м. У кабінеце Караткевіча вісеў над працоўным сталом партрэт паўстанца Каліноўскага. Таму многія залічваюць і самога Уладзіміра Караткевіча ў шэрагі рамантыкаў. Гэта памылковы залік, бо паэт Караткевіч належыць да іншага часу і зусім да іншай генерацыі, ён з пакалення постмадэрністаў. Ягоныя наследаванні Артуру Конан Дойлу і Уілкі Колінзу, Аляксандру Дзюма і Вальтэру Скоту — постмадэрністычныя імправізацыі на тэмы, узнятыя велічнымі рамантыкамі. «Я — беларускі Вальтэр Скот!» — паўжартам казаў сваім сябрам Уладзімір Караткевіч. У яго, як і мусіла быць у постмадэрніста, усё не проста літаратурнае, яно ўсё яшчэ і тэатральнае, і кінематаграфічнае. Караткевіч — беларускі постконандойл і наш поствальтэрскот. У драматычным часе рамантыкаў рэальнага Каліноўскага асудзілі, павесілі і пахавалі на гары Гедзіміна, што ў Вільні. У рамане Караткевіча Кастусь Каліноўскі ўсё яшчэ жыве і ўсё яшчэ змагаецца за сваю і тваю Беларусь.

Заканчэнне на стар. 7 »

# Сусед

## Словы пра класіка беларускай літаратуры Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

### 1984. Рукапіс

Апошнія гады жыцця Караткевіч адчуваў сябе кепска. Нікуды не хадзіў, сядзеў дома, хварэў. Таму калі ён зайшоў у нашу кватэру з рукапісам кнігі вершаў «Быў. Ёсць. Буду» і папрасіў майго тату занесці папку ў выдавецтва «Мастацкая літаратура», ніхто не здзівіўся. Тата паабяцаў, што цягам тыдня занясе рукапіс. Праз тыдзень Караткевіч убачыў сваю папку на нашым піяніна і пацікавіўся, чаму тата не занёс рукапіс. Тата сказаў, што паход у выдавецтва адклаўся праз іншыя справы, а калі ў гэтым пільная патрэба, дык рукапіс у выдавецтва магу занесці і я. Караткевіч папрасіў мяне перадаць рукапіс Міхаілу Дубянецкаму ці Рыгору Барадуліну, я перадаў вершы Дубянецкаму. Кніга выйшла пасля смерці дзядзькі Валодзі. Афармленне рабіў найлепшы сябра Караткевіча — Пётр Драчоў. У кнізе шмат фотапартрэтаў аўтара, зробленых Валянцінам Ждановічам. Дырэктар выдавецтва Міхаіл Дубянецкі паспрыяў добраму паліграфічнаму выкананню. Гартаючы і перачытваючы «Быў. Ёсць. Буду», я з прыемнасцю згадваю і свой зусім маленечкі ўдзел у лёсе выдатнай кнігі.

### 1984. Свечачка

Шмат рознага глупства пішуць пра класіка беларускай найноўшай культуры Уладзіміра Караткевіча. Стараюся не звяртаць увагі на такія глупствы і не раздражняцца праз іх. Праўда, не заўсёды атрымліваецца схаваць раздражненне і расчараванне. Надоечы прачытаў у эклектычных нататках Андрэя Скурко, нібыта ў працоўным кабінеце Караткевіча пад фотапартрэтам Кастуся Каліноўскага гарэла лампадка. Глупства несусветнае тыражуе Скурко ў лашчоным часопісе пра гісторыю. Якая лампадка? Нават пад абразамі ў кватэры нашых суседзяў Караткевічаў ніколі не гарэлі лампадкі. Час у Беларусі быў безлампадкавы. Жонка Караткевіча — цётка Валя — працавала ў Акадэміі навук і з'яўлялася чальцом камуністычнай партыі. Кажу як сведка, які пражыў побач з любімымі Караткевічамі шмат гадоў.

З тых даўніх часоў помніцца не лампадка, а свечка, што гарэла пад партрэтам Караткевіча (ужо нябожчыка…) у кватэры Дубянецкіх.

Уладзімір Караткевіч і Міхаіл Дубянецкі належалі да слаўнага пакалення «шасцідзясятнікаў», акрамя ўсяго слаўнага і выдатнага ў тым пакаленні і загана мелася: шмат пілі і курылі. Выпівалі і пакурвалі ледзь не ўсе. Пілі так многа, што мне — маладзейшаму — даручалі праводзіць захмялелых старэйшых мужчын дахаты. Некалькі разоў я вёў дамоў і выдаўца Дубянецкага. Смерць Караткевіча моцнага яго замаркоціла, так моцна, што на дзявяты дзень пасля смерці дзядзькі Валодзі ён узяў лішнюю чарку, і каб нічога кепскага з ім не адбылося, я правёў Дубянецкага ад дзвярэй Караткевічаў да ягоных. Па дарозе на свежым летнім начным паветры Міхаіл Фёдаравіч працверазеў і запрасіў мяне ў сваю кватэру, каб паказаць сямейны сакрэт — «алтар» генія, які зрабілі ягоныя дочкі Ірына і Галіна. На пісьмовым стале ў «алтары» стаяў фотапартрэт дзядзькі Валодзі, ляжалі ягоныя кнігі з аўтографамі, а перад партрэтам на белым сподачку гарэла кароценькая свечачка. «Мае дочкі любяць Уладзіміра Караткевіча. Ты не паверыш, але калі Караткевічу далі прэмію імя Мележа, яны мне сказалі, што гэта Мележу трэба было даваць прэмію імя Караткевіча…»

### 1985. Шэкспір

Апошні аўтарскі зборнік вершаў Уладзіміра Караткевіча, як ты ведаеш, называецца «Быў. Ёсць. Буду». Назвай зборніка стала назва праграмнага верша, дзе ёсць і такія словы:

*Быў. Ёсць. Буду.*
*Таму, што заўжды, як пракляты,*
*Жыву бяздоннай трывогай,*
*Таму, што сэрца маё распята* <…>

*За ўсіх, хто крывёю піша*
*Ў нязгодзе*
*З рабства подлай дарогай,*
*Хто за Край Свой Родны, за ўсе Народы*
*Паўстане нават на Бога.* <…>

Можа маё параўнанне падасца знарочыстым, але ўсё ж я напішу пра яго. Асабіста для мяне «Быў. Ёсць. Буду.» перагукваецца з шэкспіраўскім «…любил, люблю, любим». Гэта словы з дваццаць пятага санета, які сканчаецца так:

*Но нет угрозы титулам моим*
*Пожизненным: любил, люблю, любим…*

Тут Шэкспір у перакладзе Самуіла Маршака, а вось і ў перакладзе Уладзіміра Дубоўкі, у якім нават «Буду» ўжо ёсць:

*Маіх заслуг ніхто ніяк не здыме:*
*Любіў, люблю і буду век любімы.*

### 1985—2013. Дубянецкі

Пісьменніку, каб стаць класікам, трэба мець выбітнага выдаўца, які верыць у ягоны талент і збярэ ды надрукуе большасць з напісанага. Уладзіміру Караткевічу, як і шмат каму з іншых беларускіх літаратараў, пашанцавала, калі выдавецтва «Мастацкая літаратура» ўзначаліў Міхаіл Дубянецкі. Караткевіча Дубянецкі цаніў, можна сказаць, што ён яго ставіў значна вышэй за ўсіх астатніх з тагачасных літаратараў. Менавіта Дубянецкі выдаў кнігай раман Караткевіча «Нельга забыць», які пасля часопіснай публікацыі праляжаў у выдавецкіх шуфлядах дваццаць гадоў. Міхаіл Дубянецкі выдаў у палепшаным аздабленні і дэтэктыў «Чорны замак Альшанскі». Найлепшая кніга паэзіі Уладзіміра Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду» выйшла, зноў жа, дзякуючы Дубянецкаму. Першы дзесяцікніжны збор твораў Караткевіча таксама рабіўся пад кіраўніцтвам Міхаіла Дубянецкага. Тое, што Уладзімір Караткевіч — любімы пісьменнік беларускага народа, вядома ўсім, але без самаахвярнай і шмат у чым рызыкоўнай працы, якую правёў Дубянецкі, гэтая любоў не была б такой шырокай і такой своечасовай. Калі паглядзець на іншых беларускіх пісьменнікаў, чые імёны ўпісаны ў шэраг нашых класікаў, дык далёка не ўсім пашанцавала з выдаўцом так, як пашчасціла Караткевічу. Свайго выдаўца ўсё яшчэ чакае спадчына Міхася Стральцова, як і спадчына Анатоля Сыса чакае грунтоўнага адкаментаванага акадэмічнага выдання. У мяне няма сумневаў, што Стральцоў і Сыс дачакаюцца сваіх таленавітых і адказных выдаўцоў, як Уладзімір Караткевіч у свой час дачакаўся Дубянецкага.



На Прыпяці. 16 ліпеня 1984 г.

### 2005. Сыс

Сто разоў чуў: «Злы геній!» І пра вялікіх чуў, і пра знакамітых, і пра таленавітых, нават пра злачынцаў са злодзеямі чуў, што і зразумела. Цікава іншае, чаму не чуваць, каб нехта казаў: «Добры геній!». Мо ты тое чуў? Але я сумняваюся, каб такое хтось табе казаў. «Добры чалавек», «добры дзядзька», «людзі добрыя», «добры дурань» — гэткага паўсюль шмат. З геніямі інакш. Можа скласціся меркаванне, што геній толькі са зладзействам і звязаны, а, як няма зладзейства, дык і геніяльнасці няма. Нават крыху крыўдна робіцца за дабро, якое застаецца без геніяльнасці. Таму я пачаў згадваць геніяў, якіх ведаў асабіста. Пісьменнік Караткевіч і паэт Сыс, як на мой розум, вартыя таго, каб іх называлі геніяльнымі творцамі. Ці можна іх назваць злымі геніямі? Не, бо яны не былі злымі. Злавацца зламаліся, сварыцца сварыліся, нават біцца біліся, але злымі яны не былі. Праўда, і добрымі іх не назавеш. Словам, людзі — як людзі, адно што геніяльныя.

### 2005. Эпігоны

Ці ведаюць геніяльныя пісьменнікі, што яны геніяльныя? Не ўсе… З усіх геніяльных, каго я ведаў асабіста, толькі два паэты ніколі не сумняваліся ва ўласнай абранасці. Анатоль Сыс і Уладзімір Караткевіч казалі пра сваю выбітнасць, падкрэслівалі сваю выключнасць, культывавалі сваю яркую непаўторнасць. Сціпласць — не іх грэх. Ягамосць і самаўпэўненасць — іх рысы. Часам падобнае самазахапленне выглядала тэатральным і нават гратэскным, але нават у карыкатурных формах яно заставалася пераканаўчым. Эпігоны Караткевіча і Сыса як не маглі, так і не могуць паўтарыць і нават проста сыграць іх паводзіны. Эпігонам не хапае брутальнасці, якая перапаўняла жыццё Анатоля Сыса, і экстравагантнасці Уладзіміра Караткевіча, які пазіраў на свет рознакаляровымі вачыма.

### 2020. Талент

Сцісласць і кароткасць — сёстры таленту. Пэўна таму наш выбітны і праўдзіва народны пісьменнік Уладзімір Караткевіч такі таленавіты. Праўда, ён ведаў і тое, што можна паскарачаць свае думкі і выказванні да няўцямнасці і незразумеласці, а таму пісаў шматслоўна, шырока і лёгка.

### 2021. Глупствы

Некалі збіраў я розныя глупствы, напісаныя і расказаныя пра Уладзіміра Караткевіча. Сярод іх быў аповед пра гермафрадытызм дзядзькі Валодзі, які расказваў былы паталагаанатам. Мелася показка пра глыбокую веру Караткевіча ў Бога і пра гарэнне лампадкі пад абразом, што вісеў у ягонай кватэры. Пачыналася тая калекцыя неверагодных глупстваў з версіі пра смерць ад вялікай колькасці вострых прадуктаў, накшталт аджыкі ды гарчыцы, якімі нібыта злоўжываў Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч. Я кінуў збіраць гэтыя дурноты, бо іх колькасць і шматаблічнасць хутка расла і няспынна множылася. Найбольш мяне бянтэжыла тое, што хлусілі людзі вядомыя, яны падманвалі, ведаючы пра ілжывасць уласных успамінаў. Ілгуны верылі, што ствараюць правільны і патрэбны нашчадкам вобраз ідэальнага Караткевіча. За ілгунамі пайшлі графаманістыя паўтаральнікі хлусні… Пра гэтую брыдкую з'яву вельмі разумна сказала мая маці: «У іх свой Караткевіч, а ў нас свой». Наш Караткевіч разумны, вясёлы і натуральны. Такім ён быў, ёсць і будзе, прынамсі для мяне.

### 2022. Шчодрасць

Шчодрых людзей вакол мяне заўсёды шмат, іх значна больш, чым скнарных і скупых. Ні бальзакаўскага Габсека, ні гогалеўскага Плюшкіна я на жыццёвых шляхах не сустракаў. Скнары сустракаліся, але не эталонныя, каб пра іх аповесці пісаць. Праўда, тут я пра шчодрасць вырашыў расказаць…

Шмат хто са знаёмцаў казаў, што паэт Мінкін скваліны, а я ў ягонай кватэры цэлы тыдзень пражыў, калі трэба было перахавацца. Мінкін не скваліны.

Аднакурснік Міша Нацэўскі ахвяраваў мне свой пашпарт. Тым разам усё скончылася добра, і я не стаў Міхаілам Нацэўскім, але такая шчодрасць не забываецца.

Добра помніцца шчодрасць чалавека выбітнага. Таму пару слоў я скажу пра шчодрасць Уладзіміра Караткевіча. У нашай кватэры захоўваўся ключ ад кватэры Караткевіча. Часам мне трэба было паліваць ягоныя кветкі. Караткевіч дазваляў мне браць у ягонай вялікай бібліятэцы кнігі і часопісы. Звычайна я чытаў часопіс «Амерыка». Браў я (вядома, з дазволу!) і баракальных драўляных анёлаў, каб пісаць з імі нацюрморты. Часопісы і анёлаў я браў на час. А вось альбомы па мастацтве Караткевіч дарыў мне назаўсёды. Альбомаў дваццаць падарыў. Усе яны мелі ягоны подпіс з пажаданнем. Альбомы я паперадарваў, бо шмат каму са знаёмцаў хацелася мець аўтограф любімага пісьменніка. Вялікім падарункам стаў і працоўны стол Караткевіча, які мае бацькі завезлі ў новы дом на лецішчы. Стол класіка я ахвяраваў кнігарні; ахвяраваў, бо навучыўся ў Караткевіча шчодрасці.

Творца павінен ахвяраваць, раздаваць, адорваць; інакш ён — скнара Габсек, а не шчодры творца.

### 2024. Водары класічных тэкстаў

Пра музычнасць тэкстаў, пра іх рытмы і мелодыі сказана шмат, а я скажу пра водары, якія чую, калі чытаю арыгіналы класікаў. Ад апавяданняў Вячаслава Адамчыка сыходзіць пах летніх траў. Стральцоўская проза дорыць водары свежаскошанага сена. Эсэістыка Канстанціна Паўстоўскага пахне дарагім адэкалонам; дарэчы, падобны водар ідзе і ад жывапісу Міхаіла Урубеля. Нататкі Янкі Брыля патыхаюць гаспадарчым мылам; гэта вельмі здаровы дух чысціні, між іншым. Дзягцярным мылам пахне аўтабіяграфічная кніга «Пялёсткі» Уладзіміра Дубоўкі. Проза Якуба Коласа дыхае на мяне сырой зямлёй. Некаторыя апавяданні Кузьмы Чорнага смачна пахнуць хлебазаводам. Ад твораў Янкі Купалы ляціць гарачы дух вогнішча. Ад лепшага ў прозе Данііла Хармса сыходзіць эфірны халадок. Самае пазнавальнае ў Змітрака Бядулі пахне цёплай заціркай. Калі прыслухацца да водараў, што сыходзяць ад вершаў Уладзіміра Караткевіча, дык можна пачуць пахі малдаўскага каньяку і папяроснага дыму.

# Чакаць і спадзявацца



Магдалена ЛАЕЎСКАЯ

**Пані Магдалена нарадзілася ў Польшчы. Пераехала ў Беларусь, вывучыла беларускую мову. Жыве ў Магілёве.**

## Бязлюдны куток мапы

*Я ўжо навучылася
ў печы паліць,
варыць на жывым агні.
Ва ўсім дапамагае інтэрнэт,
ён стаў мне найлепшым сябрам,
перад якім не сорамна задаць
самае далікатнае пытанне.
Дастаткова ўвесці першыя літары,
і ён можа здагадацца,
што мне трэба.
Рэцэпт хлеба,
клёцак,
бліноў,
расцяжэнне ступні,
бяскрыўднае абмаражэнне...*

*Лаўлю думку,
што нехта можа ісці
за гэтым безнадзейным пошукам.*

*А я проста наганяю шмат гадоў,
напоўненых іншым.
Закопваю разлом пакаленняў на мяжы,
звязваю абарваную нітку гісторыі,
падбіраю зґублены штэтл
у сямейным марафоне.*

*Стаю на плячах безназоўных волатаў
і ўжо не здаюся смешным гномам
на гэтым бязлюдным кутку мапы.*

## Цыбульныя косы

*Амаль праз два гады пасля смерці
я прыбіраю свякрушыну кватэру,
яна памерла ў мяне на руках,
як маленькая дзяўчынка,
і гэтая смерць звязала нас больш,
чым жыццё.
Такой я запомню яе:
безабаронную
алебаставую дзяўчыну,
якая ўпэўнена ідзе
насустрач Госпаду,
хоць яе цела ўжо
не можа рухацца.
Колькі разоў
мы спрачаліся аб тым,
што важней — цела ці душа.
Яна думала,
што яны аднолькава важныя,
бо цела гэта дом для душы.*

*А я стаю ў кватэры дома для душы,
сярод цяжкіх футраў і крэслаў,
і думаю, што душа усё ж важней.
Ёй не патрэбны ўсе гэтыя рэчы,
і таму, што яна вечная.*

*Але, мая Клаўдзія Яфрэмаўна,
не хвалюйцеся,
я, вядома, буду цыбулю саджаць
і цыбульныя косы завязваць,
дакладна так, як вы гэта рабілі.*



Фота shutterstock.com

## Куртка і кава

*Як надакучыла чырвоная куртка!
Апранула я яе ў кастрычніку,
мінула сем месяцаў, як яна са мною.*

*Павольны надыход вясны
тут самы цяжкі час у жыцці.
Смутак мяне наганяе не позняй восенню,
а вясной,
калі здаецца,
што цяпла ўжо ніколі не будзе.*

*У мяне ёсць банальны спосаб
застацца ў жывых.
Кожную раніцу я ўстаю першай,
зачыняюся на кухні
і п'ю каву.*

*Гэта займае роўна сем хвілін
і з'яўляецца святым задавальненнем.
Апошні глыток заўсёды заканчваецца
думкай,
што заўтра я зноў буду піць каву,
што я зноў буду шчаслівай.*

*І што вясна прыйдзе.*

## Дэрматагліфы

*Андрэй усё жыццё адпрацаваў на будоўлі,
ён ніколі не карыстаўся пальчаткамі,
можа таму ў яго былі гладкія далоні
без адбіткаў.*

*Кожны раз, калі спрабаваў зрабіць візу,
у яго не атрымлівалася,
бо ніякая прылада
не магла зняць неіснуючыя адбіткі пальцаў,
таму і застаўся тут.*

## Чакаць і спадзявацца

*У Беларусі я навучылася
чакаць і спадзявацца.
Пакуль зацвітуць півоні,
паспеюць суніцы,
выпадзе снег,
растане снег,
пакуль прыйдзеш да мяне.*

*Сапраўды, гэта адзіны спосаб,
каб кветкі мелі пах,
садавіна — смак,
а наша любоў працяг.*

## Жанчыны

*Жанчыны нараджаюць жанчын,
якія нараджаюць жанчын.
Жанчына за скурай,
за лыжкай, за падушкай,
за маскай, за мяжой,
за вуглом, за дзвярыма,
за кратамі.*

*Жанчына пад скурай,
пад вокам, пад шыяй,
пад пазногцем, пад рукой,
пад крыжам.*

## Выканаўцы дзеянняў

*Колькі разоў засцілаць ложак?
Колькі разоў сціраць шкарпэткі?
Колькі разоў падмятаць лесвіцу?
Колькі разоў чысціць абутак?
Колькі разоў мыць посуд?
Колькі разоў рыхтаваць сняданак?
Колькі разоў зачыняць дом?
Колькі разоў запальваць святло?
Дзеля чаго гэта?
Каб дасягнуць дасканаласці?
А можа, мы проста
выканаўцы дзеянняў?
І больш ніхто.*

*Засцілальнік ложка.
Сціральнік шкарпэтак.
Падмятальнік лесвіц.
Чысцільнік абутку.
Мыйнік посуда.
Рыхтавальнік сняданака.
Зачыняльнік дома.
Запальнік святла.*

*Паміж шматразовымі паўторамі
незакончанае трыванне дзеяслова
стане закончаным трываннем
сусвету.*

## Дрэва

*Дрэва было такое старое,
што ніхто не памятаў,
колькі яму гадоў.
Хто жыў на самым версе,
не ведаў, хто быў унізе.
Як толькі хтосьці засяляўся,
яны бралі каву і ішлі ў госці.
Кожнаму жыхару было прысвоена
імя, дата нараджэння і смерці,
бліжэйшыя сваякі,
прафесія ды анекдоты.
Анекдоты можна было дапаўняць
у электронным выглядзе.
І вось дзядзька Гервазі
апісаўся ад смеху ў Вене,
цесць Паша смажыў булачкі на газе,
падчарка Наста званіла,
каб яе павіншавалі
з днём нараджэння,
дзед Зют выратаваў жыцці
Ніны і Давіда,
дзядзька Марэк быў слімаком,
а цётка Гаша мурашкай.*

*За дрэвам даглядала я.*

## Пярсцёнак

*Здавалася,
што ў яго адна задача —
пратрымацца,
а аказалася,
што яго можна зняць,
згубіць,
што ён можа саслізнуць
са схуднелых пальцаў,
выклікаць дэрматыт,
што яго могуць скрасці,
разрэзаць на апухлым
безназоўным пальцы.
Чаму?
Таму, што пярсцёнак —
гэта кропка над і,
а не кропка ў апошнім сказе.*

## Шукальнікі

*Ходзяць чуткі,
што Бог пакінуў
некаторыя запісы
пасля стварэння свету.*

*Літары абсыпаліся
і расцярушыліся па свеце,
маглі патрапіць у суп
ці гарбату,
заблытацца ў валасах,
краявідзе,
шуфлядзе,
у вясковай бібліятэцы
ці на камяністай сцежцы.*

*Толькі некаторыя —
і толькі час ад часу —
разумелі, з чым маюць справу.*

*У народзе іх называлі дзівакамі,
а яны самі лічылі сябе
шукальнікамі праўды.*

## Зёлкі

***Валянціне Крачкоўскай***

*Я заўсёды захапляюся
лацінскімі назвамі раслін.
Такі звычайны рамонак —
шаноўная спадарыня
Matricaria Chamomilla,
святаяннік — спадар Hypericum L.
Глог — Crataegus L.
Кроп — Anethum.*

*Нават хочацца пагаварыць
з імі і пазнаёміцца лепш,
каб быць крыху
больш адукаваным.*

*Слабасць ма́ю
толькі да славянскай маці-мачыхы,
якая з аднаго боку мяккая, як маці,
а з другога — грубая, як мачыха.*

*Падчас бяссоннай ночы
Tussilago farfara L.
(якога таксама называюць падбел)
патлумачыў мне:*

*гэта адзін і той жа чалавек,
часам гэта мама, якая любіць,
а часам мама, якая патрабуе.
Усё ўжо палічылі:
сумесь любові і дысцыпліны
павінна быць у прапорцы 3:1,
заварваць трэба пад дахам дома
кожную раніцу
і падаваць невялікімі порцыямі
на працягу дня.*

*Дапамагае ад кашлю і іншых праблем.*

## Хлеб

*Бог — як палаючы куст, —
занадта вытлумачальна
сказаў біёлаг.
Бог — як вогненны слуп, —
занадта велічна сказаў паэт.
Бог — як вясёлка, —
занадта пяшчотна сказаў дзед.
Бог — як бацька, —
занадта банальна сказала манашка.
Бог — як слова, —
занадта нематэрыяльна сказаў фізік.
Бог —як малое дзіця, —
занадта легкадумна сказаў муж.
Бог — як ахвяра, —
занадта ненадзейна сказаў спартсмэн.*

*Бог —як кавалак Хлеба, —
...*

## Дробка солі

*Адчуўшы на сабе
магутнасць слова,
я часта задумвалася,
што гэта такое.
Чаму менавіта гэтыя словы,
менавіта у такім узросце,
менавіта гэтага аўтара
змянілі менавіта маё нутро?
А чаму не змянілі сябра,
стрыечнага брата
і ўсіх астатніх?*

*Мне вельмі хацелася
ўзяць пад кантроль словы,
падсунуць кнігу
і вылечыць дэпрэсію,
язву, анарэксію ці комплексы
сумных чытачоў.*

*І толькі цяпер я зразумела,
у чым справа.
Справа не ў аўтарскім таленце
ці чытацкім майстэрстве,
а проста ў тым, што
трапляе на зямлю
дробка солі Святога Духа.*

*Гэтым дабром
распараджаецца сам Бог,
час ад часу наймае
пісьменнікаў і чытачоў
на поўную або няпоўную
стаўку.*

## Знак

*Чакаю знака.
Прашу слова,
якое ніколі не паўтараецца,
якое прыходзіць у апошні момант,
якое толькі я разумею,
якое нельга прадбачыць,
якое нельга прыдумаць,
якое можа схавацца
на чыімсьці языку, у сне,
у нататках, у кнізе, у лесе,
у падкасце, на татуіроўцы мінака.
Усемагутны, Усюдыісны, Усячасны.
Настойліва прашу
і чакаю ў пакоры,
маю надзею,
што пыха не знішчыць
далікатнае існаванне
Слова.*

*Пагавары са мной,
калі буду гатова.*

# Чортавы лісты


Збігнеў ФРОНЧАК

***Збігнеў Уладзімеж Фрончак — аўтар дзясяткаў кніг: зборнікаў вершаў, апавяданняў, замалёвак, эсэ пра мастацтва, раманаў. Яго творы друкаваліся ва ўсіх краінах Еўропы, кнігі — у больш, чым дзесяці. Ён — лаўрэат нацыянальных і міжнародных літаратурных прэмій.***

***Адукацыю атрымаў на польскім філалагічным факультэце Універсітэта імя Марыі Складоўскай-Кюры ў Любліне. Працаваў у некалькіх літаратурных часопісах, у 2004 годзе заснаваў часопіс «Люблін. Культура і грамадства».***

***Шмат гадоў назад у пошуках прыгодаў перасякаў усю Еўропу, Афрыку і Азію. Калекцыянер кніг і старых прыладаў.***

## Уступ

«Лісты старога чорта да маладога», апублікаваныя англійскім пісьменнікам К. С. Льюісам, выклікалі фурор ва ўсім свеце. Іх друкавалі і чыталі ўжо падчас апошняй вайны, а маім чытаннем яны сталі ў дзевяностыя гады мінулага стагоддзя.

У каментары да сваёй працы Льюіс ганарліва заяўляе, што не мае намеру тлумачыць чытачу, якім чынам карэспандэнцыя трапіла ў яго рукі.

«Табе можна, пане чорт!» — казалі ў Польшчы ўжо ў шаснаццатым стагоддзі. Сёння я скажу: табе можна, спадар аўтар! І патлумачу, што кніга Льюіса напоўнена лістамі старога чорта па імені Скрэўтап (у польскім перакладзе яно гучыць як «Круцель») свайму пляменніку, у якіх чарцяка дае парады — як давесці чалавека (яго ў чортавай перапісцы называюць «пацыентам») да пякельнага граху.

Чарговы раз прачытаў я сабраную Льюісам чортаву перапіску і пераканаўся, што імя маладога чорта — Палын — адрасата лістоў Круцяля — мне не чужое! Пакляўся б, што яно мне вядома не толькі са старонак кнігі Льюіса. Далібог! Я напружыў памяць і не сумняваўся, што подпіс «Палын» бачыў на аркушах паперы, якія некалі трымаў у руках! Не ў якімсьці архіве — у сваёй бібліятэцы, ва ўласных калекцыях! Дзве гадзіны я перабіраў папяровыя стосы, а калі надзея знайсці карэспандэнцыю, закінутую чвэрць стагоддзя таму, пачала згасаць, я звярнуўся да святога Антонія. Святы Антоній Падуанскі зноў дапамог мне адшукаць згубу. Ён ведаў, дзе лісты, і падказаў мне!

І вось у маёй руцэ сем аркушаў рукапісу, які я ў васьмідзясятых гадах XX стагоддзя набыў у антыкварнай краме Любліна. Не было часу прачытаць, адклаў ad acta (да запісаў — *лац.*), цяпер зірнуў на апошнюю фразу і подпіс: «З любоўю і павагай твой пляменнік Палын». Неверагодна! Лісты — у адрозненне ад накрэмзаных Круцялём — мелі пазначаны час і месца напісання. Год 1984, Люблін! Застаецца загадкай, як яны апынуліся ў руках люблінскага антыквара, і, напэўна, ніхто не адкажа, якой поштай яны павінны былі быць дастаўлены адрасату — польскай ці чарцячай. Напісаныя па-польску, можна сказаць — бездакорная пальшчызна. Палын блукаў па свеце, таленавіты чорт, мовы вывучыў у адно імгненне, мяркую, што пісаў іх на мове народа, сярод якога знаходзіўся. Я заліхваю яго ў шэраг чарцей Любліна, хаця надоўга ён тут не затрымліваўся, горад на рацэ Быстрыца быў транзітным на шляху ягоных вандровак. Ён імкнуўся наперад, усё ж натура нецярплівая, цікаўная да чалавечага і чарцячага свету, але лісты, лісты з Любліна засталіся! І валодаю імі я! Публікую, каб зірнулі ўсе, каму цікава.

Прыемнага чытання!

## Ліст першы

Дарагі дзядзечка Круцель!

У маім жыцці з'явілася кабета! Не брыдкая, какетлівая бландынка, завуць Адэляй. Не, я не закахаўся, мне зусім чужыя парывы кахання, я толькі паддаўся яе жаночай вабноце. Прызнаю, яна падабаецца не толькі мне! Я дзялюся ёю з адным суб'ектам, яе аднагодкам.

Ён не ведае пра мяне і ці даведаецца? Час пакажа, як кажуць у людзей! Учора падчас сустрэчы Адэля кажа: «Мне трэба ісці. У мяне прызначаная сустрэча са сваім хлопцам, ён не павінен даведацца, што я з кімсьці сустракаюся! Магчыма, я знайду для цябе час на наступным тыдні».

Яна перакананая, што я буду паміраць ад тугі. Я не ведаю рэўнасці, не ўведаю і тугі. Падыходжу да шафы і дастаю скрынку з абуткам. Гэта падарунак для яе. Новыя, з самай лепшай скуры, чырванюткія! Я бачу, як яе вочы ўсміхаюцца.

— Для мяне? — пытаецца і ўжо цягне да іх рукі.

— Для цябе, але з'явішся не праз тыдзень, а праз тры дні.

— Паглядзім, што здолею зрабіць! — кажа яна на гэта.

— З'явішся праз тры дні і тады забярэш! Да таго часу будуць у мяне ў шафе!

Прымерыць я не дазволіў. Яна сыходзіць насупленая, але з'яўляецца на трэці дзень. Пасля хмельнай сустрэчы гісторыя паўтараецца, холадна кажа мне:

— Не ведаю, ці буду мець час у гэтым месяцы!

— Чакаю цябе заўтра, — адказваю я і вешаю на дзвярах шафы элегантную сукенку.

Я не збіраюся выдаляць хлопца з жыцця Адэлі! Калі б я быў адзіны ў яе жыцці, я б на другі дзень даў лататы праз замочную дзірку! Пакуль што я не скупілюся на сюрпрызы! Набыў машыну, пад'ехаў да месца сустрэчы.

— Едзем у сталіцу, — прапаноўваю. — Я заказаў білеты ў тэатр і начлег у гатэлі!..

— Мог бы мяне папярэдзіць, — крывіцца яна, — я б інакш апранулася! Больш эфектна! Узяла б больш элегантную сумачку і штосьці з біжутэрыі.

— Сумачка на сядзенні за намі, упрыгожванні ў бардачку перад табою! — кажу я і абганяю на сваім «Фальксвагене» маленькія «Фіяцікі».

Пачынае доўгі прагляд, развешванне караляў.

— Гэта золата? — задае яна пытанне.

— Самае сапраўднае.

З недаверам круціць галавою.

— Дзе ты працуеш? — пытаецца ўрэшце. — Прызна́ешся?

Не запытала «хто ты», а «дзе ты зарабляеш грошы?». Напэўна, палічыла мяне азартным гульцом, а можа, спрытнюгам, які зарабляе на наркотыках або незаконным гандлі.

— Але гадзіннік мужчынскі! Не адрозніваеш мужчынскага ад дамскага?

— Гадзіннік для твайго хлопца. Уручыш яму на развітанне!

— Які ты прадбачлівы, — кажа яна і цалуе мяне ў шчаку.

У тэатры ідзе Атэла — тое, што я добра ведаю, ужо бачыў на сцэнах Масквы, Лондана і Парыжа. Лонданскае выданне твора я нясу ў заплечніку. Некаторыя фрагменты ведаю на памяць, і здаралася, што праслаўляўся, дэкламуючы іх сярод школьнікаў, пенсіянераў у санаторыях, вязняў і манашак. Калі слухачы станавіліся сур'ёзнымі, я рагатаў. Мяне бадзёраць шэкспіраўскія бацылы зла і радуе ачарненне дабра! Я ведаў, што ў варшаўскім тэатры мне будзе весела!

Перад спектаклем адыграў я эпізадычную ролю. Карыстаюся сітуацыяй, калі Адэля ў прыбіральні разглядае сваю пазалочаную шыю, падыходжу да кантралёркі ў форме, працягваю стодаляравую купюру і кажу:

— Калі я падыду з дзяўчынай і папрашу паказаць месца, вы назавеце мяне князем. Мы паразумеліся?

— Так, ваша княская мосць — адказвае яна і хавае банкноту.

— Яшчэ не ўсё, — лезу па другую банкноту і кажу: — Кошык кветак для Атэлы!


Фота pixabay.com

І ўжо пра з імгненне, з Адэляй, што ўчапілася за маё плячо, падаю ёй квіткі. Яна далікатна бярэ іх, нізка кланяецца, і кажа:

— Прашу за мной, ваша княская мосць!

— Князь? — шэпча Адэля. — Такую мажлівасць я не брала ў разлік!

Мы з годнасцю ідзем за ёй — сапраўдныя вяльможы! Перш чым займаем свае месцы, Адэля паспявае спытаць:

— Як думаеш, яны заўважаюць, што мае кара́лі — залатыя?

— Княгіні носяць толькі золата! — адказваю я.

Я не расчараваўся! Дзве, дзве з паловай гадзіны экстатычных дрыжыкаў! Калі пальцы Атэлы сціснулі шыю Дэздэмоны, я не здолеў устрымацца, каб не ўскрыкнуць ад задавальнення. І тая асалода для мяне ад абураных і дакорлівых позіркаў публікі! Паэзія, захапленне, ап'яняльны боль! Надыходзіць фінал, акцёры кланяюцца, публіка не шкадуе воплескаў. Тады — паводле майго плану — кантралёрка заносіць кошык кветак. Ставіць перад Атэла, той з гонарам прымае, а жанчына паказвае на мяне як на фундатара. Я ўскокваю на ногі, дастаю з кішэні гарнітура хустачку і размахваю ёю, як на фестывалі ці парадзе. Акцёр стрымана, нават неахвотна схіляе галаву.

— Маэстра! — крычу я, — вашае ўдушэнне найвышэйшага класу! Я ў захапленні! Мая падзяка!

— Вялікі князь, а не ўмее сябе паводзіць! — адчытвае мяне Адэля ўжо ў машыне. — Ты, відаць, лічыш чалавечую драму смешнай, — незадаволена абвяшчае яна.

Яе развважанне было недалёка ад ісціны. Я быў здзіўлены, што часам яна выказвала такія трапныя меркаванні. З жанчынамі трэба быць напагатове.

На наступны дзень я пачуў прызнанне:

— Я хачу застацца з табою, трэба зняць большую кватэру і абавязкова памяняць мэблю. Тая, што ў цябе, страшэнна грубая.

Няма праблем! Зняў кватэру, заказаў мэблю. Адэля ўжо засялілася.

— А ты калі засялішся? — пытаецца.

Я не адказваю, бо прыйшла хвіліна, калі мне пара даваць драла. Засталося вырашыць адно пытанне. Сыйсці князем ці перанасычаным і цынічным каханкам? Князь заплаціць за кватэру на год наперад, разлічыцца за мэблю і пакіне падарункі. Цынік пацягнецца па валізу, запакуе гардэроб, забярэ падарункі, пакіне Адэлю голай. З валізай пабяжыць на базар, за дзясятую-дваццатую частку кошту прадасць сукенкі, хатнія халаты, пантофлі, грошы аддасць п'яніцам, каб выпілі за вольнае каханне. Золата, вядома, пакіне сабе, яно заўсёды спатрэбіцца.

Я задаў сабе трохі працы. Быў на базары! Я разумею, чаму кажуць: што ад чорта прыйшло, да чорта і вернецца.

Ах, добра быць чортам! Дэманізаваць свет — справа цяжкая, але ж нельга сказаць, што немагчымая!

Адданы Табе, Дзядзечка, пляменнік Палын.

Люблін, у красавіку 1984 года.

## Ліст другі

Дыхаю надвіслянскім паветрам. Апынуўся ў Казімежы. Зелянiна, жоўты пясок, серабрыстыя хвалі Віслы, неба — як у Італіі. Бачыў яшчэ мужчыну, што намагаўся выпхнуць на бераг ракі пашарпаны човен. На ўзваллі стаяў двухколавы вазок, на якім — як няцяжка было здагадацца — ён меў намер перавезці човен у які-небудзь падворак ці сядзібу. Яму было цяжка, бо ўзвалле было стромкім, човен вялізным, а чалавек — як я заўважыў, калі падышоў бліжэй — не самым маладым. У нейкі момант ён паспрабаваў падняць яго спіною і падштурхнуць вышэй. Гэта ён добра скеміў, так было лепей. А я дзеля забавы паставіў нагу на нос чаўна і перашкодзіў яму рухацца. Ён не мог мяне бачыць, бо быў адвярнуўшыся. Я ўверсе, ён на чатыры метры ніжэй. Ён напружваў сілы, задыхаўся, упіраўся нагамі і не пасунуўся ні на сантыметр наперад, ні на міліметр уверх.

— Што за ліха?! — прамармытаў ён і павярнуўся. І тады заўважыў мяне. Я гарэзліва засмяяўся над яго здзіўленым тварам. Мы доўга глядзелі адзін на аднаго, і ён сціснуў ад злосці кулакі. Азірнуўся з боку ў бок, быццам нешта шукаў. Я ўгадаў — вёслы. Але ж і з вяслом ён не даў бы мне рады.

— Зычыш мне кепскага, — сказаў я яму. — Хацеў бы, напэўна, каб мяне паглынула пекла?! — Сказаў такім тонам, які пачуў учора па тэлебачанні ад нейкага апаратчыка, той гэткай фразай зрэзаў свайго апанента.

Ён засмяяўся. У такі момант заліўся звонкім, шчырым смехам.

— Ты верыш у пекла? — з недаверам звярнуўся ён да мяне.

— Я яго пасланец у Польшчы! — заявіў я не без пыхі.

— У пасланца галава павінна быць не для фуражкі! — сказаў ён. — Ускладніць працу можа любы дурань, а дапамагчы — мала хто.

— Чакаеш дапамогі ад іншых, а сваю галаву носіш для аздобы? — я эфектна зрэзаў яго сваім меркаваннем.

— Чаму тузаешся і піхаеш, калі можна каціць без намаганняў?

І кінуў яму сасновы кругляк.

Зразумеў. Падняў, падклаў і выкаціў.

— Не такі ты дурны, як выглядаеш, будуць з цябе...

Тут ён яўна прыкусіў язык. Што ён меў на ўвазе: будуць з цябе людзі... ці будуць з цябе чэрці?

Я дапамог яму паставіць човен на вазок. Ён выцер рукі аб штаны і паглядзеў на мяне больш ласкава.

— Можа, гарбаты? Ці хлебнага квасу? — запрашае да сябе.

— Вялікі дзякуй, — падумаў я. — Піва, я хачу піва!

Заканчэнне на стар. 10 »

# Чортавы лісты

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 9

***

Праз некалькі хвілін я плюхнуўся на металічнае крэсла ў бары на беразе Віслы і даў знак афіцыянтцы, каб прынесла кухаль піва.

У гэты момант з'явіўся малады чалавек гадоў дваццаці пяці, з нейкімі занадта ўзбуджанымі рухамі і з бегаючымі вачыма. Ён не быў упэўнены, за якім сталом яму сесці.

— Сядай, дружа, — запрасіў я. — І выпі піва.

— Няма часу, — адказаў ён на гэта. — Іду вешацца!

«Ну, то не буду затрымліваць, — мог бы адказаць я, але зразумеў, што хочацца мне раскрыць прычыну ягонага калыхання на вяроўцы. Чаму б, — падумалася мне, — не паслухаць споведзі самазабойцы?! Такія не трапляюцца на кожным рагу вуліцы». І паказаў яму на крэсла.

— Яна здраджвае мне з нейкім нікчэмным камедыянтам, самахвалам у дзіравых туфлях, аблітым рускай парфумай, які ўдае сябе за князя! Нават яна, маю на ўвазе — мая дзяўчына, заўважыла, што ён прасцяк! У яго няма прыдворных манер, ён безгустоўна апранаецца, так, грошай яму не бракуе, абрабаваў, напэўна, нейкі сельскі банк ці задушыў багатую старую цётку. Грошы шпурляе направа і налева, быццам хоча ад іх пазбавіцца, быццам яны яго пякуць, відаць, не хоча, каб ад іх застаўся след… Падараваў ёй жменю золата, а праз тры дні скраў і падарункі, і вопратку і пакінуў з нясплачанымі рахункамі за мэблю і жыллё! Кара́лі не зачапіў, я іх сам узяў напярэдадні. Я хацеў праверыць у ювеліра, ці сапраўды яны з золата. На шчасце — так, з золата. Дзяўчына ўпэўнена, што каралі таксама бамбануў ён. Ён не здолеў іх украсці, а я магу прадаць, купіць што-небудзь дзяўчыне на плечы, абутак, аддаць пазыкі! Не! Я не магу, не хачу жыць у такім свеце! Чаму нічога не кажаш? — звярнуўся ён да мяне. — Павер, пагадзіся, што гэта страшэнны ўдар: прайграць суперніцтва такому боўдзілу! Яна кінула мяне дзеля такога…

Я нічога не сказаў, бо гэтыя словы былі як гром з цёмнага пекла! Ён казаў пра нашу Адэлю. Чуў я некалькі разоў пра непрадбачаны збег акалічнасцяў. Ён здараецца з людзьмі, жывёламі, але таксама — як я адчуў — і з чарцямі!

— Вяроўку маеш трывалую? — спытаў я.

— Маю кавалак моцнага шнура, а ў рэзерве добрая дзяга ад нагавіцаў!

Вось жа, падрыхтаваўся. Педант!

«На тваім месцы я б зрабіў тое ж!» — мог сказаць я, але не сказаў. Мяне ахапіла злосць на яго і на сябе. Ён быў — хоць і не ведаў — сведкам маіх дзеянняў, лепш бы ён знік. Я быў удзячны Адэлі, што давяла яго да вар'яцтва. Цікава, ці будзе ён страшны для яе пасля смерці?

Але кашчавая яшчэ не трымала яго ў сваіх абдымках, не прыціснула да сваіх худых грудзей! Да яе яшчэ крок, яшчэ два — я хацеў, каб ён зрабіў іх як мага хутчэй! Такім чынам, трэба было дапамагчы добрай парадай!

— Жыць з адчуваннем такой паразы — страшная рэч, — сказаў я. — Ты адважны і годны, а шнур маеш грунтоўны, то да справы! Да справы!

— Бывай, дружа! — са слязьмі ўвачу звярнуўся да мяне. — Я б хацеў паціснуць тваю далонь. Гэта будзе апошняя чалавечая рука, паціснутая пры маім жыцці!

Пайшоў да купкі дрэў, ад якіх прыйшоў я.

Я выпіў піва і з'еў бы стронгу, бо афіцыянтка пераконвала, але што там смажаная стронга? Мне было цікава — ці вісіць ужо хлапец.


Фота wien.com

Ён не вісеў!

Ён фарбаваў човен старога, які я дапамог паставіць на вазок. Гэтага хлопца я страціў, але не яго дзяўчыну, яна яшчэ ўчыніць нам шмат прыемных сюрпрызаў.

Гэтым днём, дзядзечка, я развітваюся трохі засмучаным…

Твой пляменнік Палын.

Люблін, у траўні 1984 года.

## Ліст трэці

Дарагі дзядзечка Круцель!

Я сяджу сабе ў Любліне ў Саксонскім садзе і напяваю:

*У Саксонскім садзе ля фантана*
*Нейкі прасцяк прысеў да панны,*
*Так з ёю фліртаваў без меры,*
*Украў яе пацалунак,*
*яна — яго гадзіннік.*

Побач на лаўцы сядзіць нейкая асоба, ну, не дзяўчына, можа, і не матрона, а сталая, каб не сказаць, пераспелая кабета. Яна кідае на мяне какетлівы позірк летуценных вачэй і кажа пра надвор'е. Я не рэагую. Але недарэкаў — спраўдзіць словы песенькі — тут даволі. Побач нервова ходзіць прыгожы, але змрочны маладзён. Без сумневу, студэнт ці іншы дармаед. Яго абутак і штаны зношаныя, кашуля нясвежая, але думкі клубяцца пад небам, бо махае рукамі, быццам з кімсьці спрачаецца. Такі чалавек можа прынесці пеклу вялікую карысць! Ён, відаць, стаміўся, захацеў аддыхацца і адразу не мог вырашыць, на якую лаўку сесці — да мяне ці да той асобы. Натуральна, падсеў да старой какеткі, відавочна прагнуў бабскай кампаніі. Яны нават міла пагутарылі, ён у нейкі момант пытаецца:

— Каторая гадзіна?

— Дзесяць! — чуе адказ.

— Дзесяць гадзін?! Немагчыма! — ускліквае ён.

—І не прыйшла! — какетліва іранізуе жанчына.

— Прыйдзе, прыйдзе! — адказвае хлопец. І далей перакідваюцца жартамі.

— Каторая гадзіна? — пытаецца ён праз некаторы час.

— 10:30 — чуе на гэты раз.

— Напэўна, нешта здарылася, — кажа ён хутчэй сабе, чым ёй.

Ён ускоквае і спяшаецца прэч. Какетка застаецца няўцешнай. Такой сумнай асобы я даўно не бачыў!

— Каб я была маладзейшай, — ні то сур'ёзна, ні то жартуючы, кажа яна, — можа, і застаўся б. Ой, тады б душа мая была ў раі! — дадае сумна.

— Вы яшчэ адчуеце сябе вельмі маладой! Хлопец вернецца, — шматабяцальна кажу я. Я ведаю, што ён вернецца, бо мне ўдалося выцягнуць ягоны кашалёк. Нават самы вялікі ідыёт заўважыць адсутнасць кашалька.

— Вернецца?! — з недаверам пытае яна.

— Вернецца! — запэўніваю я. — Вы аддасцё ягоную ўласнасць і падорыце гэтую залатую драбязу. — Тут я падсунуў пашарпаны кашалёк і залаты гадзіннік. — А калі прыме гадзіннік, то і наступныя падарункі не адпрэчыць. Вось гэты пярсцёнак — калі ласка, каб падараваць яму пасля чарговага ўдалага спаткання, вось кліпса, адна, другая… Як будзе рада яго дзяўчына! Цябе таксама задавальненне не абміне, уведаеш, кабета, незямныя асалоды!

Яшчэ не ачуняла, прыбягае студэнт.

— Кашалёк не пакінуў? — пытаецца.

— Калі ласка, сядайце, — адказвае яна.

Хоць і неахвотна, але сядае. Яна падае яму ягоную згубу. Хлопчык расчыняе, зачыняе, зноў расчыняе, бо не верыць сваім вачам. У яго была адна банкнота, цяпер дзесяць.

— Цяжка паверыць, што гэта ваша? — здзекуецца кабета. — Сумненняў быць не можа! Там фота вашай дзяўчыны. Што, не хочаце прыняць свой кашалёк?

— Чым магу аддзячыць? — манерна пытае атрымальнік падарунка.

— Гэта яшчэ не ўсё, яшчэ гадзіннік, каб вы не забыліся, што заўтра а восьмай я чакаю! Вось па гэтым адрасе. — І яна падсоўвае паперку, на якой каліграфічным почыркам напісаны назва вуліцы і нумар кватэры. Хлопец бярэ паперку, узіраецца ў адрас, хавае ў кашалёк. Шукае словы, але, здаецца, не знаходзіць, бо сыходзіць, не сказаўшы ні слова.

— А што будзе, калі не прыйдзе? — пытаецца яна мяне, а можа сябе.

— Прыйдзе, прыйдзе! І гэта будзе доказам, што я вас адмаладзіў!

— Хто ты? Напэўна, я буду вымушана падпісаць кантракт?! — смяецца яна над уласным жартам — і ўжо цалкам са мной фамільярная.

— Ужо падпісала! Так што ты — абранніца лёсу. Табе дадзена больш за іншых! Ужо купляеш людзей, разбэшчваеш іх, схіляеш да спаткання, навязваеш сваю волю.

— Калі ты думаеш, што гэта кантракт, я не супраць! Мы можам рухацца далей! Калі ласка!

І ўжо ў нас чарговы дзень і неверагодныя эмоцыі! Бачу: вяртаецца з базару, у чырвоных туфлях і чырвонай сукенцы! Так, яна купіла тое, што некалькімі днямі раней радавала Адэлю! Як усё ідзе прыгожа, як цудоўна складваецца!

Надыходзіць дзень, якога я чакаў. Падарункі скончыліся, абеды перасталі быць смачнымі, хлопец пачынае адчуваць агіду да сябе і да сваёй партнёркі, намагаецца вырвацца з гэтых адносінаў. Яму нялёгка!

Я спадзяваўся на гэта. Але не чакаў, што яму будзе так цяжка сысці! А яна здзівіла і мяне, і яго. Непрадказальная, здольная і пранырлівая кабетка!

Яна сфатаграфавала цацанкі, якія яму падарыла. І пагражае, што калі ён не завітае да яе заўтра, то фотаздымкі з адпаведным каментаром атрымае яго дзяўчына.

Стаю пад дзвярыма і чую, як хлопец крычыць:

— Калі не пакінеш мяне ў спакоі, я цябе задушу! Я цябе задушу, як рудую суку!

О-о, здолела ювелірка заліць яму сала пад скуру. Толькі б яму смеласці хапіла! Ён і ў акно можа выкінуць! Такі варыянт таксама трэба абдумаць. Але цяпер чуваць толькі з'едлівы смех кабеты.

— Ідзі, астынь, паспі, адзін ці з дзеўкай, а праз тыдзень прыйдзеш прасіць прабачэння! — дакарае яна, упэўненая ў сіле сваіх аргументаў.

Хлопец ляскае дзвярыма і выбягае. Я ведаю, ведаю, якія думкі клубяцца ў яго галаве. Задушыць — вельмі прымітыўна, самы дурны афіцэрык зразумее, што яна не сама, а праз гадзіну будзе ведаць, што за каханак адведаў нябожчыцу. Лепш выкінуць у акно, гэта можа выглядаць як самагубства. Следчаму прыйдзецца няблага паламаць галаву. (Тут я падкідваю некаторыя матэрыялы для чытання.) Хай прачынаецца і засынае з думкамі аб ідэальным злачынстве.

Тыдзень мінае хутка, я з'яўляюся па тым адрасе. Хачу падысці да дзвярэй, а на прыступках рассеўся нейкі рослы, фанабэрысты, упэўнены ў сабе арганізм. Я спыніўся, бо бачу, што ён не збіраецца мяне прапускаць.

— Ты хто? — пытаецца.

— Табе што за справа?! — адказваю.

— Не скажаш, не прапушчу.

— Іду да знаёмай з трэцяга паверху.

— Няма яе і ўжо не вернецца, паехала да дачкі, будзе ўнукаў даглядаць. Чакаю тут аднаго студэнта, павінен перадаць прывітанні і фотаздымкі нейкіх дробязяў. Дык гэта ты — той студэнт?

— Так, студэнт — гэта я. Ведаю, што на тых фота. Я чакаў гэтай пасылкі. — І працягваю лапу.

Той крыва ўсміхаецца.

— Для цябе, дружа, — кажа ён мне, — маю іншы пакет. — І цягнецца да скамечанай газеты побач. Разгортвае і выцягвае ўжываны пэндзаль. Я адразу нічога не сцяміў, і толькі калі ён сказаў «2:0», зразумеў, што двойчы прайграў. Але матч працягваецца. І я не збіраюся сыходзіць з поля.

О, быць чортам-пераможцам — нялёгкая справа! Я разумею, што недахопу цяжкіх супернікаў на маім шляху не будзе, але думка пра перамогу не перастае мяне спакушаць!

Развітваюся з Табою, дзядзечка.
Адданы пляменнік Палын.
Люблін, у чэрвені 1984 года.



*Пераклаў з польскай Павел ЛЯХНОВІЧ*

# Тувэ ЯНСАН: «Я проста шчаслівая»



Алена ДАРАФЕЕВА

110 гадоў назад нарадзілася пісьменніца і мастачка Тувэ Марыка Янсан (9 жніўня 1914—27 чэрвеня 2001) — адна з самых вядомых творцаў Фінляндыі. Яе кнігі перакладзены больш чым на 45 моў свету. Створаны ёю свет мумі-троляў разросся ў цэлы сусвет, дзе разам з кнігамі, коміксамі, мультфільмамі і спектаклямі існуюць тэматычныя паркі, музеі, сувенірная прадукцыя. Што ж асаблівага ў гэтых героях, чаму іх па-ранейшаму любяць чытачы ўсяго свету: як дзеці, так і дарослыя?

Тувэ Янсан прыдумала Мумідол (даліну троляў) падчас Другой сусветнай вайны. Спачатку мумі-тролі былі даволі змрочнымі — чорнымі, з чырвонымі вачыма, але затым ператварыліся ў белых лагодных істот, падобных да бегемотыкаў, і аб'ядналіся ў дружную сям'ю. Так узнікла выдатная ўяўная краіна, куды можна перанесціся і на час забыцца аб рэальнасці, пагрузіўшыся ў свет радасці, дабра і любові. Напэўна, таму гэтыя гісторыі аказаліся запатрабаванымі на працягу многіх дзесяцігоддзяў, знайшлі водгук у душы чытачоў — як пасляваеннай Фінляндыі, так і пазней — Еўропы, Японіі, ЗША.

## Вытокі

Тувэ заўсёды падкрэслівала вялізную ролю бацькоў, сям'і ў сваім станаўленні як мастачкі і пісьменніцы. Сям'я Янсан належала да кола шведскамоўнай інтэлігенцыі Фінляндыі. Шведская мова, якая дагэтуль захавала статус другой дзяржаўнай мовы Фінляндыі (хоць сваёй роднай мовай яе лічаць 5,5% жыхароў краіны), у XIX — першай трэці XX стагоддзяў была мовай адукаванай часткі грамадства, мастацкай літаратуры і культуры.

Тувэ Янсан вырасла ў багемнай сям'і: бацька — Віктар Янсан (1886—1958) — быў вядомым скульптарам, маці — Сігнэ Хамарштэн (1882—1970), шведка, — мастачка і ілюстратарка. Тувэ з ранняга дзяцінства пачала маляваць, магчыма, яна навучылася гэтаму раней, чым гаварыць. Малодшыя браты Тувэ таксама пасля выбралі творчыя прафесіі: Пэр-Улаф стаў фатографам, а Ларс — мастаком і пісьменнікам.

Свет мастацтва, творчасці, у якім раслі дзеці, выдатна паказаны ў аўтабіяграфічных навэлах са зборніка «Дачка скульптара». Дзяўчынка вырасла сярод скульптур бацькі. Віктар Янсан любіў запрашаць у дом сваіх сяброў-мастакоў, пры святле свечак і газавай лямпы яны гралі на гавайскай гітары і балалайцы, балявалі. Яго аўтарытэт быў у доме бясспрэчны, і маці даводзілася часам нялёгка, бо на яе плечы клалася не толькі вядзенне гаспадаркі і выхаванне дзяцей, але і зараблянне грошай (Віктар Янсан хутка спускаў свае ганарары). Ва ўзросце дваццаці васьмі гадоў Сігнэ Хамарштэн паехала вучыцца ў Парыж, дзе і пазнаёмілася з маладым фінскім скульптарам. Пасля вяселля маладыя людзі адзін год пражылі ў Парыжы, а потым пераехалі ў Хельсінкі. Стабільны даход сям'і прыносіла праца Сігнэ: яна супрацоўнічала з часопісамі і кніжнымі выдавецтвамі як ілюстратарка, а ў 1920-я гады была прынята на няпоўны працоўны дзень на пасаду мастака ў друкарню Фінляндскага Банка.

Дом-майстэрня ў Хельсінкі, дзе вырасла Тувэ, аказаў вялікі ўплыў на ўсё яе далейшае жыццё і творчасць. Яна была вельмі прывязана да бацькоўскага кута, які пакінула толькі ў дваццаць сем гадоў. Адносіны з маці былі вельмі блізкімі. На яе калені Тувэ і навучылася маляваць. Будучы яшчэ зусім дзіцем, ва ўзросце каля дзесяці гадоў, яна свядома пачала дапамагаць маме, і яе працы прымаліся выдавецтвамі.

Найважнейшай часткай дзіцячых успамінаў, якія ўвайшлі ў мастацкі свет Тувэ Янсан, сталі летнія канікулы. Яна часта праводзіла лета ў бабулі — на востраве недалёка ад Стакгольма. Гэтыя ўражанні леглі ў аснову аўтабіяграфічнай аповесці «Летняя кніга», у якой дзяўчынка Сафія з'язджае на лета на далёкую выспу разам з бабуляй, якая захавала, нягледзячы на свой узрост, запал да прыгодаў, пачуццё гумару і невычэрпную фантазію.

## Страшны «мууумі-троль»

Бацькоў цешылі поспехі дачкі ў выяўленчым мастацтве. У пятнаццаць гадоў ёй дазволілі пакінуць звычайную школу і адправілі вучыцца ў Стакгольмскую школу мастацтва і дызайну. Там Тувэ вывучала каліграфію, дэкаратыўны роспіс, мастацкае афармленне кніг і дызайн рэкламы.



Тувэ ЯНСАН

Падчас вучобы ў Швецыі яна жыла ў сям'і дзядзькі Эйнара Хамэрштэна — прафесара-хіміка, які стаў адным з «вінаватых» у з'яўленні на свет мумі-троляў. Менавіта ад яго Тувэ Янсан упершыню пачула гэтае слова. Каб адвучыць пляменніцу «хамячыць» па начах, дзядзька аднойчы папярэдзіў яе, што «прыйдзе мууумі-троль, падыхае ёй холадам на шыю, калі яна занадта часта будзе па начах лазіць у шафу з прадуктамі...

Першага мумі-троля Тувэ намалявала, калі ёй было шаснаццаць. Як расказвае яе пляменніца Сафія, — на сцяне туалета на востраве, дзе сям'я часта праводзіла водпуск. Тувэ назвала яго Снорк, і ён стаў перыядычна з'яўляцца на яе малюнках як своеасаблівая эмблема ці пячатка. «Там ішла вельмі бурная перапіска, напрыклад, з братамі яны пра філасофскія праблемы разважалі. І вось аднойчы неяк брат пакінуў там гісторыю, нейкі надпіс пра Канта. Тувэ не магла прыдумаць нешта ў адказ яму і намалявала нейкую істоту. Тады яна сказала, што гэта была самая непрыгожая істота, якую толькі яна магла прыдумаць. Гэта і быў першы Мумі-троль», — згадвала родзічы.

У сярэдзіне 1930-х Тувэ Янсан актыўна працавала як ілюстратарка. Пайшоўшы па слядах маці, пачала маляваць для гумарыстычнага часопіса «Garm» — форуму для фінска-шведскіх пісьменнікаў, журналістаў, навукоўцаў і ілюстратараў. З канца 1930-х гадоў часопіс спрабаваў выступаць у ролі рупара антыфашысцкай грамадскай думкі. Тувэ Янсан намалявала мноства вокладак са смелымі карыкатурамі, заўсёды падпісваючыся сваім сапраўдным імем.



Творца ў хельсінкскай студыі

## Нараджэнне мумі-троляў

У канцы 1930-х гадоў Тувэ Янсан пачынае пісаць кнігу пра сямейства мумі-троляў. «Была ваенная зіма 1939 года, — згадвала яна. — Усякая праца застопарылася, здавалася зусім немагчымым нават спрабаваць маляваць карцінкі. Магчыма, здасца натуральным і зразумелым, што мне раптам захацелася напісаць што-небудзь, што пачыналася б словамі: “Жылі-былі...” Ужо напалову гатовае апавяданне было забыта да 1945 года, калі нечакана прыйшоў адзін з маіх сяброў і сказаў, што напісанае мной, — здаецца, дзіцячая кніжка; дапішы, маўляў, яе да канца і праілюструй, магчыма, аповесць надрукуюць».




Ілюстрацыя Тувэ ЯНСАН для гумарыстычнага часопіса «Garm». 1942 г.

Гэтым сябрам быў журналіст Атос Віртанэн, з якім Тувэ нават была заручана, але вяселле так і не адбылося. Дзякуючы ягонай падтрымцы яна сапраўды дапісала і праілюстравала кнігу. У вобразах мумі-герояў увасобіліся рысы блізкіх Тувэ Янсан. Мумі-мама і мумі-тата — гэта, вядома, бацькі. Мама — крыніца цяпла, любові і клопату, заўсёды гатовая да прыходу гасцей (у кладоўцы ў яе абавязкова назапашана нешта смачнае). Тата — які час ад часу ўпадае ў дэпрэсію ад спакойнага і ўраўнаважанага жыцця ў даліне, усаджвае сваю сям'ю ў лодку і пераязджае на скалісты астравок з маяком далёка ў моры. Сябар і каханы Тувэ — Атос Віртанэн — стаў прататыпам аднаго з самых вядомых і сімпатычных персанажаў Мумі-дола — Снусмумрыка. Зялёны капялюш Снусмумрыка быў зmаляваны з таго, што насіў Віртанэн. Вобраз сузіральнай і філасофскай Туу-Цікі з аповесці «Чароўная зіма» нясе ў сабе рысы Туулікі Піетыля — мастачкі і скульптуркі, з якой Тувэ пражыла апошнія сорак пяць гадоў свайго 87-гадовага жыцця. Галоўны герой Мумі-троль, па прызнанні самой пісьменніцы, — гэта яе alter ego.

Менавіта ў ваенныя гады Тувэ пакідае бацькоўскі дом, жыць у якім ёй станавілася ўсё цяжэй. Некалькі гадоў яна не магла знайсці прыдатнай студыі, дзе можна было б жыць і працаваць. У канцы лета 1944 года Тувэ пашанцавала, яна змагла зняць памяшканне — дом з вежай у Хельсінкі. Пасля бамбардзіроўкі горада ён быў у жудасным стане: «Тут няма вокнаў, паўсюль трэшчыны, ад сцен адкалоліся вялікія кавалкі, ад каміна і батарэй нічога не засталося. Але ўсё ж гэта — мая вялікая мара. Прасторная сталовая, побач — невялікі пакой, у якім можна жыць» (з дзённіка Тувэ Янсан). Тувэ паступова ўладкоўвала памяшканне, якое яна вельмі палюбіла, а ў пачатку 1950-х змагла яго выкупіць. Яна ладзіла тут тэатральныя паказы, вечарынкі, запрашала сяброў, з-за чаго суседзі часта скардзіліся. Менавіта ў вежы на вуліцы Уланінканкату Тувэ Янсан стварыла свае самыя галоўныя малюнкі і гісторыі пра мумі-троляў. Яна пражыла ў гэтым атэлье больш за шэсцьдзесят гадоў.

Першая кніга «Маленькія тролі і вялікая паводка» ўбачыла свет у 1945 годзе ў выдавецтве «Söderström» і зусім не была паспяховай. Першапачаткова Тувэ Янсан напісала яе на фінскай мове, але затым сама пераклала на шведскую. Пазней яна лічыла гэтую кнігу найменш удалай з усіх твораў цыклу. Да таго ж ёй давялося пайсці на саступкі шведскім рэдактарам, якія адпрэчылі першапачатковую назву «Мумі-тролі і вялікая паводка», матывуючы тым, што слова «mumintroll» будзе для чытачоў незразумелым і таму непрывабным.

Другая кніга «Камета прылятае» выйшла праз год — у 1946-м у тым жа выдавецтве. Вывы героям, якія ад страху перад набліжэннем каметы кідаюць свае дамы, былі навеяныя ўспамінамі аб бамбаванні ваеннага часу. Гэтая кніга таксама не выклікала асаблівай цікавасці ў чытачоў, і выдавецтва спыніла супрацоўніцтва з Тувэ Янсан. Усе наступныя творы яна публікавала ў выдавецтве «Schildts».

У 1949 годзе тэатральны рэжысёр Вівіка Бандлер паставіла ў Шведскім тэатры спектакль па кнізе «Мумі-троль і камета». Аўтаркай п'есы і дэкарацый была сама Тувэ. Спектакль стаў вельмі паспяховым.

## Мумі-тролі захопліваюць свет

Толькі трэцяя аповесць — «Капялюш чараўніка» (1948) — мела поспех у чытачоў. Гэтая кніга стала літаратурным прарывам 34-гадовай пісьменніцы, атрымаўшы станоўчую крытыку — як у Фінляндыі, так і ў Швецыі, і ў выніку прынесла ёй сусветную вядомасць. Мумі-тролі палюбіліся чытачам розных краін, іх сталі выдаваць вялізнымі накладамі.

Заканчэнне на стар. 12 »

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 9 (217), верасень 2024 года

# Тувэ ЯНСАН: «Я проста шчаслівая»




« Заканчэнне. Пачатак на стар. 11

Неабходна было прыдумляць новыя гісторыі. У 1950-я — 1960-я гады ў Фінляндыі выйшлі кнігі «Небяспечнае лета», «Мемуары Мумі-таты», «Чароўная зіма», «Тата і мора». А таксама зборнік апавяданняў «Дзіця-невідзімка», чатыры кніжкі ў малюнках («Небяспечнае падарожжа», «Што далей?», «Хто суцешыць малютку», «Ашуканец у доме Мумі-троляў»). Кніжкі-малюнкі Тувэ Янсан «Што далей? Кніга пра Мюмля, Мумі-троля і Малую Мю» (1952 год) і «Хто суцешыць Кнюта?» (1960) да гэтага часу застаюцца незвычайна папулярнымі і пастаянна перавыдаюцца.

У 1952 годзе ангельскае агенцтва «Associated Press» прапанавала Тувэ Янсан маляваць коміксы пра мумі-троляў на сталай аснове. Кнігі «Камета прылятае» і «Капялюш чараўніка» былі ўжо перакладзены на ангельскую мову і карысталіся поспехам у Вялікабрытаніі. Дырэктар агенцтва Чарльз Сатан напісаў Тувэ ліст, у якім распавёў аб сваёй ідэі: «Мне прыйшло ў галаву, што "Мумі-сям'я" можа стаць найцікавым коміксам, які неабавязкова будзе адрасаваны дзецям. Вядома, сям'я Мумі-троляў заўсёды прыцягвае дзяцей, але мы думаем, што гэтыя выдатныя істоты могуць быць скарыстаны і ў коміксах, і з іх дапамогай аўтарка зможа высмеяць наш так званы цывілізаваны лад жыцця». Тувэ Янсан прапанавалі выпускаць па адным комікс-стрыпе ў дзень, пры ўмове, што гэта будуць пацешныя гісторыі з працягам, пазбаўленыя палітыкі, смерцяў і згадак пра каралеўскую сям'ю. Яна пагадзілася, і быў заключаны сямігадовы кантракт. Першы комікс «Мумі-троль і разбойнікі» з'явіўся на старонках лонданскай газеты «The Evening News» з накладам 12 мільёнаў асобнікаў 20 верасня 1954 года. На працягу сямі гадоў публікавалася па шэсць кароткіх коміксаў у тыдзень! З мумі-тролямі пазнаёміліся мільёны людзей па ўсім свеце (пазней правы на коміксы купілі іншыя еўрапейскія газеты).

Нягледзячы на тое, што праца прыносіла стабільны высокі даход, неўзабаве яна прынесла і непазбыўны стрэс: пастаяннае развіццё сюжэту, графікі здачы матэрыялу вымотвалі Тувэ Янсан. Спачатку яна асабіста малявала кожную палоску коміксу, укладваючы ў гэта душу, але потым пачала стамляцца, і ў яе ўжо не хапала часу ні на што іншае. Тады ёй пачаў дапамагаць брат Ларс, які і да гэтага быў яе «правай рукой»: перакладаў комісы на ангельскую, дапамагаў складаць сцэнары. Ларс Янсан больш за пятнаццаць гадоў маляваў мумі-коміксы і зрабіў з гэтага прыбытковы бізнэс. Таксама яны разам з Тувэ рабілі спектаклі, пісалі тэатральныя сцэнары і тэксты песняў.


Фота tovejansson.com

Малюнак Тувэ ЯНСАН. 1975 г.

У канцы 1950-х — 1960-х гадах пачалося трыўмфальнае шэсце мумі-троляў па свеце. Па матывах твораў Тувэ Янсан здымаліся тэлевізійныя і мультыплікацыйныя фільмы, ставіліся спектаклі, радыёпастаноўкі. Не толькі ў Фінляндыі, але ў Швецыі, Германіі, Японіі, дзе Тувэ Янсан і яе героі былі незвычайна папулярныя. У пачатку 1990-х гадоў у Японіі выйшаў серыял пра мумі-троляў, які складаецца больш чым са ста серый. Тувэ некалькі разоў была ў Японіі, там праходзілі яе выставы, а прымалі яе як галівудскую зорку.

## Мумі-СССР

Да Савецкага Саюза хваля папулярнасці мумі-троляў дакацілася пазней і прыпала на канец 1980-х гадоў. Літаратуразнаўца і перакладчыца скандынаўскай літаратуры Людміла Браўнэ ўспаміналa: «Дзесьці ў снежні 1992 года я расказала пісьменніцы пра тое, якім поспехам карыстаюцца кнігі пра мумі-троляў у нашай краіне і колькі іх апублікавана за апошні час, а таксама пра лісты і водгукі чытачоў на яе творы. "Гэта — сапраўдны бум!" — сказала я. Задумення гледзячы перад сабой, Янсан заўважыла: "Цяпер мумі-бум у многіх краінах"».

Чаму ж «белыя бегемотыкі» аказаліся такімі запатрабаванымі, сталі нейкім знакам інтэлігентнага савецкага дзяцінства? На гэтае пытанне нельга адказаць, напэўна, мы можам толькі здагадвацца. Папулярнасць кніг пра мумі-троляў, верагодна, тлумачыцца псіхалагічнай дакладнасцю і тым майстэрствам, з якім пісьменніца балансуе паміж светам дзяцей і светам дарослых. Гэта не проста займальнае чытанне для дзяцей, але шматгранныя мастацкія тэксты, якія займаюць філолагаў, псіхолагаў, філосафаў, мастацтвазнаўцаў у той жа меры, што і чытачоў усіх узростаў. З жыхарамі Мумі-дола ўвесь час нешта здараецца, яны пакутуюць, змагаюцца з адзінотай і шукаюць сябе, але ў выніку заўсёды вяртаюцца дадому — ва ўтульнае і цёплае месца, дзе заўсёды пахне смачнай ежай, дзе цябе любяць і чакаюць... і не канапацяць мазгі ідэалогіяй. Акрамя таго, кнігам Тувэ Янсан пашанцавала з перакладчыкамі. Першымі і лепшымі перакладамі кніг фінскай пісьменніцы на рускую былі работы Уладзіміра Смірнова: яны выходзілі накладамі 75 — 100 тысяч асобнікаў, якія пастаянна перавыдаваліся. Вялікую ролю ў «папулярызацыі мумі-троляў», верагодна, мела і серыя выдатных мультфільмаў «Мумі-троль і іншыя», агучвалі Зіновій Гердт, Рына Зялёная, Юрый Якаўлеў, Вольга Гобзева...

Па-беларуску мумі-тролі актыўна загаварылі ў XXI стагоддзі — дзякуючы працы перакладчыцы Алесі Башарымавай. З'явілася серыя кніг, прысвечаных чароўным і забаўным істотам: казачныя аповесці «Маленькія тролі і вялікая паводка», «Камета над далінай мумітроляў», «Капялюш чарадзея», «Небяспечнае лета», «У канцы лістапада», «Чарадзейная зіма» і іншыя.

## У цені Мумі-дола

Слава прыгнечвала Тувэ Янсан, яна ўсё больш марыла аб адзіноце. Стаўшы адной з найбагацейшых жанчын Фінляндыі, яна змагла ажыццявіць сваю мару і набыла невялікі востраў — Клоўхарун — у Фінскім заліве, дзе праводзіла кожнае лета з 1964 па 1992 год. Жыццё на востраве было абсалютна пазбаўлена не толькі раскошы, але нават звычайных бытавых выгодаў. Але Тувэ самазабыўна любіла гэтыя скалы, бушуючае мора і крыкі чаек, якія лунаюць над хвалямі...

Пры ўсёй шматграннасці свайго таленту, Тувэ Янсан заўсёды марыла рэалізавацца сябе ў першую чаргу як жывапісец. Аднак слава, якая літаральна абрынулася на яе пасля сусветнага поспеху кніг пра мумі-троляў, зрабіла яе мару цяжка здзяйсняльнай, бо прыдумванне новых сюжэтаў і маляванне ілюстрацый займала амаль увесь вольны час.

Тувэ Янсан скончыла пісаць гісторыі пра мумі-троляў у 1970 годзе — у год смерці маці. Пазней яна пісала толькі «дарослую» прозу: у асноўным аповесці і апавяданні аб чалавечых узаемаадносінах, іх далікатнасці і ўразлівасці, аб сяброўстве, каханні і адзіноце. Апроч ужо згаданых «Летняй кнігі» (1972) і «Дачкі скульптара» (1978), гэта былі зборнікі «Якая ўмела слухаць» (1971), «Падарожжа ўлегцы» (1987), «Сумленная гульня» (1989), «Лісты Клары» ( 1991), «Шэры шоўк» (1971—1991). Апошнім апублікаваным творам Тувэ Янсан стала аўтабіяграфічная дзённікавая проза «Цыдулкі з выспы» (1996).

Тувэ Янсан памерла ў Хельсінкі ў чэрвені 2001 года ва ўзросце 87 гадоў. За сваё доўгае жыццё яна была ўганаравана мноствам нацыянальных і міжнародных прэмій. У 1966 годзе Янсан атрымала Прэмію імя Ханса Крысціяна Андэрсана — вышэйшую ўзнагароду ў галіне дзіцячай літаратуры. «Стаць лаўрэатам Міжнароднай Залатой Медалі, якая носіць імя Ханса Крысціяна Андэрсана, незвычайна адказна, — прызналася яна. — Але, як гэта ні дзіўна, я не адчуваю звыклага цяжару, які накладае пачуццё адказнасці. Я проста шчаслівая».



Тувэ ЯНСАН і яе тролі. Канец 1990-х гг.